PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 34 (2258) Год XLIV Беласток 22 жніўня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Сямён Шарэцкі ў „Ніве”

13 жніўня г.г. наша ціхая і амаль непрыкметная ў Беластоку рэдакцыя засяродзіла ўвагу СМІ ўсёй Польшчы — наведаў нас старшыня Вярхоўнага Савета РБ 13 склікання **Сямён Шарэцкі**. Суправаджаў яго старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведар Нюнька (як вядома, пасля 20 ліпеня С. Шарэцкі з'ехаў у Літву).

У ходзе сустрэчы С. Шарэцкі цікавіўся становішчам беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне, як і іншымі пражываючымі ў гэтым рэгіёне меншасцямі. Пасля ўтварэння новага Падляшскага ваяводства ў рэгіёне „з'явілася новая меншасць” — літоўцы, якія карыстаюцца вельмі моцнай падтрымкай суседняй Літвы. С. Шарэцкі сцвердзіў, што ў нармальным абставінах такою ж падтрымкай з боку Беларусі павінны карыстацца і беларусы Беласточчыны.

У рэдакцыі адбылася таксама сустрэча С. Шарэцкага са старшынёю Беларускага народнага фронту Зянонам Пазьняком, які актуальна жыве ў Польшчы. Абодва падкрэслілі вялікую ролю інфармацыі ў той сітуацыі, у якой апынулася Беларусь. Беларускамоўная радыёстанцыя, паводле іх, павінна ўжо даўно тут узнікнуць.

Падрабязней з матывамі, якія прагучалі ў час дыскусіі пазнаёмім чытачоў у нашых чарговых выпусках.



Фота Міраславы ЛУКШЫ

Варта тут яшчэ нагадаць і тую акалічнасць, што Вярхоўны Савет РБ 13 склікання ўспрымаецца міжнароднай супольнасцю як легальны заканадаўчы орган Беларусі, а яго старшыня пасля 20 ліпеня фармальна выконвае абавязкі прэзідэнта. На тэрыторыі Польшчы Сямён Шарэцкі суправаджаўся польскай дзяржаўнай аховай — так, як гэта належыцца дзяржаўнаму дзеячу суседняй краіны. У сувязі з гэтым 13 жніўня г.г. наша ціхая і заўжды адкрытая рэдакцыя стала цалкам недаступнай нашым пастаянным наведвальнікам. Разлічваем на ваша зразуменне надзвычайнасці ўзніклай сітуацыі.

**Аляксандр МАКСІМЮК**




*На пікнік у Мельніку людзі прыйшлі цэлымі сем'ямі.* Фота Паўла СУПЕРНАКА

# Пікнік у Мельніку

**— Раней быў гэта практычна маналог украінска-ўкраінскі — кажа войт Мельніцкай гміны Яўген Віхоўскі. — Мы, праўда, кожны год уціскалі на сцэну нейкі польскі гурт, але гэтага было замала. Таму пастанавілі мы памяняць формулу імпрэзы і запрасілі да нас прадстаўнікоў усіх народаў, якія пражываюць на Падляшшы.**

Музычныя дыялогі ў Мельніку восем гадоў праводзіў Саюз украінцаў Падляшша. Сёлетнія — дзевятыя — прайшлі без ранейшага арганізатара. Мельніцкае мерапрыемства стала ў гэтым годзе Культурнымі дыялогамі нацыянальных меншасцей Падляшскага ваяводства. Сарганізавалі яго: Управа гміны Мельнік і Беларускае грамадска-культурнае таварыства, у супрацоўніцтве з Цэнтральнай радай ромаў у Польшчы.

Назоў імпрэзы не да канца адпавядаў таму, што было відаць і чуваць у амфітэатры „Тапаліна”, над маляўнічым берагам Буга. У музычным дыялогу пераклікаліся галасы беларусаў, расейцаў, ромаў (цыганоў) і палякаў, бо як сказалі члены калектыву „Пасека” з забужанскага Плятэрова, свята не магло адбыцца без мясцовага польскага фальклору. Аднак не фальклор дамінаваў на гэтым свяце, а дыска-пола. Сярод выступаючых многа было прыезджых з-па-за Падляшша. Ромы прыехалі з Дэмбіцы і Ольштына, расейцы з Калінінграда, беларуская зорка — калектыў „Сябры” — з Менска.

Беларускую падляшскую культуру прадставілі: хор Галоўнага праўлення БГКТ „Крыніца” з Беластока, „Маланка” з Бельскага дома культуры ды тры калектывы дыска-пола: беластоцкія „Ас” і „Прымакі” ды сямятыцкі „The Best”.

Польскімі зоркамі былі: крыху прызабытая варшаўская акцёрка Эва Кукрлінская і моцна прыцёрты беластоцкі спявак Януш Ляскоўскі.

— Мы запрашалі і літоўцаў, і украінцаў, — гаворыць войт Яўген Віхоўскі, — але яны чамусьці не адгукнуліся на нашае запрашэнне. Тым не менш, лічу імпрэзу вельмі ўдалай. Над Бугам сабралася рэкордная публіка, якая, думаю, знайшла тут блізкія свайму сэрцу музычныя матывы. Ці то песні, пачутыя ў дзяцінстве ад суседзяў, ці яшчэ спяваныя на сямейных урачыстасцях.

Было відаць, што публіка сапраўды добра гуляе і адпачывае. Людзі прыйшлі і прыехалі цэлымі сем'ямі, з дзецьмі. Стаяла добрае надвор'е, усім хапіла напояў і каўбасак з „грыля”. Удзельнікам пікніка настрою не псавала ні брыдкая сцэна (за спінамі выканаўцаў была нейкая выцвілая мазня з надбужанскім краявідам), ні слабая апаратура, якое хапіла б на вяселле, але не на якую-небудзь прэзентацыю культуры.

Зрэшты, да прэзентаванай у Мельніку культуры і ўзроўню некаторых выканаўцаў не цяжка было б прычапіцца. Але хай там. Можа ў будучыні будзе лепш. Калі, зразумела, арганізатары хочуць надаць мерапрыемству прэстыжны ранг. Могуць жа пайсці і іншым шляхам: старацца толькі пра тое, каб публіка добра гуляла пры піве, каўбасках і абы-якіх дрындушках. На што, вядома, маюць поўнае права.

Адзін у свабодную хвіліну зачытвалася кніжкамі Беларускага гістарычнага таварыства, другі — паэзіяй Яна Чыквіна, трэці слухае рок-гурт „NRM”, а чацвёрты пускаецца ў танец пад рытмічныя мелодыі „Аса”. Жыхары Мельніка, пэўне, існавання трох першых праяў беларускай культуры нават не падазраюць. Няхай жа хоць будзе „Ас”.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

## „Рацыя” навосень

У пачатку гэтага месяца Юліуш Браўн, старшыня Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання, падпісаў канцэсію для радыёстанцыі „Рацыя”, якая будзе вяшчаць беларускамоўныя перадачы...

[*болей* ☞ 2]

## Агратурызм — альтэрнатыва сельскай гаспадарцы

Агратурызмам можа займацца кожны селянін. Не плацячы падаткаў можна трымаць пяць пакояў для максімум 20 турыстаў. У нашым рэгіёне турысты за жыллё плацяць ад 10 да 30 зл. у суткі ад асобы. Да турыста неабходны індывідуальны падыход, паколькі ў кожнага іншыя патрабаванні і розная заможнасць кашалька. Найважнейшае — добрае самаадчуванне турыстаў.

[*пераарыентацыя* ☞ 3]

## „Глыбоччына: пагляд у мінулае”

Першы раз пасля звыш 50 гадоў у Глыбокае прыехаў Вальдэмар Варніцкі, які жыве каля Жыўца, у Радзехонах. „Глыбокае надта змянілася. Nie poznaję”, — казаў. Сярод глыбачан былі таксама Мар'я Якубоўска з Могельніцы, якой бацька быў расстраляны НКВД у 1941 г., Каміль Кшэмінські з Вроцлава, які цікавіцца гісторыяй школьніцтва у былым Дзісненскім павеце.

[*вяртанні* ☞ 4]

## Помнік каралю-дабрадзею

Калі бурмістр разам з прадстаўнікамі ваяводскіх улад рыхтаваліся адкрываць помнік, Кляшчэлі прыкрылі чорныя хмары. Ужо ў час дажджу адбылося асвячэнне помніка і калі запрошаныя госці ўскладвалі кветкі, людзі хаваліся ў школу і спартыўную залу. А на падворку штораз мацней бушавала бура. Вельмі моцны вецер ламаў галлё і збіваў з ног людзей.

[*адкрыццё* ☞ 8]

## У бядзе няма страху

Найперш быў знак. На двары стаяў кастрычнік сорак другога года. Якраз выпала свята. Я з бабуляй вярнулася з царквы, — прыгадвае Марыся Младзяноўская са Старыны. — Усёй сям'ёй заселі абедаць. І раптам у акно ўдарыла птушка. Тры разы ўдарыла. Бабуля як елі, так лыжка ім з рук упала.

— Ужо ўсё, нас ужо няма! — прамовіла.

[*успаміны* ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Алесь Сураў: „Палітыкам мяне назваць нельга”

**Чытачы „Нівы” ўжо пазнаёміліся з малюнкамі з кніжкі „Замалёўкі з Беларускай «натуры»” гродзенскага мастака Алеся СУРАВА. Як ужо паведамлялася ў нашай газеце, у красавіку супраць А. Сурава была ўзбуджана крымінальная справа, а частка тыражу кніжкі была канфіскавана. Непрыемнасці мастака працягваюцца і зараз. Гутарку з ім правёў наш гродзенскі карэспандэнт Зміцер Кісель.**

***— Алесь, раней ты быў вядомы дзякуючы сваім карцінам. Як здарылася, што пачаў маляваць палітычныя карыкатуры?***

— Я палічыў сваім абавязкам адлюстраваць сваю пазіцыю на тое, што адбываецца ў Беларусі. Але палітыкам мяне назваць нельга. Калісьці я быў у БНФ. Білет выдадзены ў 1992 годзе захоўваю, як памяць і дзеля аўтографа З. Пазьняка. Аднак неўзабаве зразумеў — для палітыкі я слабы, бо для мяне яна заканчваецца размовай з сябрамі за куфлем піва.

***— Аднак ты не мог не разумець, што твае карыкатуры выклічуць адпаведную рэакцыю ўладаў.***

— Ведаў, што такое можа быць. Ставіўся да гэтага спакойна. Нават знаёмыя здзіўляліся, чаму мяне не выклікаюць у адпаведнае месца. Нечаканасцю быў толькі дзень, калі ўсё гэта адбылося.

***— Як паставілася да красавіцкіх падзей твая сям'я?***

— Нармальна. Калі ў хату прыйшлі з вобыскам, нават цешча з імі спрачалася, даводзіла, што ў нас павінна быць свабода слова. А дачка выганяла іх з хаты і абзывала „казламі”. Наогул гэты вобыск быў даволі смешны. Шукалі кампрамат у ложку дачкі, яе сшытках. Ператрэслі нават апількі ў акварыуме з марской свінкай.

***— Аднак крымінальная справа гэта не вельмі смешна.***

— Я не адчуваў асаблівых непрыемнасцяў. Зараз гродзенскі следчы справу закрыў і накіраваў дакументы ў Мінск, але адтуль няма ніякага адказу. Аднак гродзенскія ўлады помсцяць мне іншым чынам. Хочуць у мяне забраць майстэрню. 10 жніўня я атрымаў афіцыйнае папярэджанне, калі не высялюся — пададуць у суд.

***— На якой падставе?***

— Аказваецца, яшчэ 10 мая я быў




Мал. Алеся СУРАВА („Замалёўкі з Беларускай «натуры»”)

выкрэслены са спісу гродзенскіх мастакоў і згубіў права на льготныя аплаты арэнды памяшкання. Зараз я павінен плаціць як прыватная асоба. Выходзячы з плошчы майстэрні, гэта каля 100 долараў у месяц, што проста нерэальна. Зразумела, што я такіх грошай не плачу.

***— Як гэта цябе выкрэслілі з мастакоў? Ты ж галоўны мастак лялечнага тэатра. У 1997 годзе атрымаў дыплом ад Міністэрства культуры за афармленне спектакля „Прыхадзень”. На фестывалі творчасці тэатральнай моладзі ў 1998 годзе быў прызнаны лепшым мастаком сцэны ў Беларусі. Выставы тваіх карцін адбываліся не толькі на радзіме, але і ў Польшчы ды Англіі.***

— У нашай краіне ўсё можа быць. У тым жа 1998 годзе Міністэрствам культуры спектакль „Ліпавічкі” быў забаронены да паказу, бо быў прызнаны антыдзяржаўным і эстэтычна недасканалым. Зразумела адкуль усё ідзе. Нядаўна адзін чыноўнік, у прыватнай размове, сказаў мне: „Алесь! Ну навошта ты выдаваў тую кніжку?”. Але я жыву спакойна. З майстэрні высяляцца не збіраюся. Няхай судзяць. Думаю, суд будзе даволі вясёлым.

## У памяць Вялікай жанчыны

8 жніўня ў Зэльве ўрачыста адзначаўся дзень нараджэння Ларысы Геніюш. Амаль з усёй Гродзеншчыны і з Мінска прыехалі людзі, каб аддаць даніну памяці вялікай паэтцы і жанчыне, якая прысвяціла жыццё Беларусі і яе народу.

Першай у Зэльву прыбыла гродзенская дэлегацыя. Ініцыятарам яе прыезду была стрыечная сястра Ларысы Геніюш спадарыня Ніна Міклашэвіч, якую падтрымала Праваслаўная царква. Гродзенцы прыехалі на царкоўным мікрааўтобусе. Пасля заканчэння ранішняга набажэнства, святар зэльвенскай царквы і два гродзенскія бацюшкі адслужылі паніхіду па паэтцы. У адмысловай пропаведзі прысутным было расказана пра лёс Ларысы Геніюш, пра яе адданасць Богу і Радзіме. Акрамя зэльвенцаў і гродзенцаў на набажэнстве прысутнічала мінская дэлегацыя пад кіраўніцтвам акторкі Галіны Дзягілевай.

З царквы людзі накіраваліся да дому, дзе жыла сям'я Геніюшаў, каб пакланіцца месцу, дзе пры гаспадарах жыў сапраўдны беларускі дух, куды прыязджалі паэты, мастакі, навукоўцы. Затым гродзенцы і мінчукі пайшлі да магілы Геніюшаў, там іх ужо чакалі прадстаўнікі ад усіх раённых радаў БНФ Гродзеншчыны. Зноў над магілай памаліліся гродзенскія святары. Пасля гучалі прамовы, чыталіся вершы. Увесь час над магілай лунаў бел-чырвона-белы сцяг. Напрыканцы ўсе разам праспявалі „Магутны Божа”.

Закончылася адзначэнне дня нараджэння Ларысы Геніюш у мясцовым доме культуры, дзе Галіна Дзягілева прадставіла свой спектакль „Белы сон”. А на наступны дзень у гродзенскім Пакроўскім саборы служылася паніхіда па Ларысе Геніюш і яе мужу Яну.

**Зміцер Кісель**

## Беларускія рыцары ў Чэхіі

Ужо трэці год у першую суботу жніўня чэшскае мястэчка Млазавіцэ вяртаецца ў сярэднявечча. Па вуліцах праходзяць рыцары ў поўным рыштунку, якія пасля, на радасць шматлікім гледачам, праводзяць турнір і бяруць штурмам замак. Кожны раз у гэтым прымаюць удзел рыцары з Беларусі. Асабліва прадстаўнічая беларуская дружына выглядала ў гэтым годзе.

Тое, што на імпрэзу запрашаюцца сябры беларускіх рыцарскіх клубаў не выпадковасць. Гэта даніна гістарычнай памяці. Як вядома ў 1419 годзе ў Чэхіі пачалося паўстанне супраць нямецкага засілля. Кіраваў паўстанцамі знакаміты Ян Жыжка, які з чэшскай дружынай удзельнічаў у Грунвальдскай бітве. Гэта напэўна і паклала пачатак шматвяковым прыязным беларуска-чэшскім суадносінам. Калі памірае чэшскі кароль, паўстанцы запрашаюць на прастол Вялікага князя Вітаўта. Ён прысылае ў Прагу свайго намесніка.

У 1420 годзе Рымскі папа аб'яўляе супраць чэхаў крыжовы паход. Аднак паўстанцы перамагаюць крыжакоў. У 1422 годзе Рым зноў збірае паход на Чэхію. Яе жыхары звяртаюцца за дапамогай да Вітаўта. Ён набірае трохтысячную дружыну з праваслаўных беларусаў і пад кіраўніцтвам князя Жыгімонта накіроўвае ў Чэхію.

Беларускія рыцары прымаюць удзел у шматлікіх баях з крыжакамі. Адным з эпізодаў вайны чэхаў за незалежнасць было ўзяцце гусітамі ў 1424 годзе замку ў Млазавіцах. Аднак праз некалькі гадоў паміж кіраўнікамі паўстання пачынаюцца спрэчкі. У выніку чэхі пачынаюць несці паразы. Вітаўт загадвае сваёй дружыне вярнуцца на радзіму. Беларускія ваяры адмаўляюцца і застаюцца з чэхамі. Вайна ідзе яшчэ некалькі гадоў. На радзіму з трох тысяч беларусаў ніхто не вярнуўся.

У гонар тых падзей і адбываюцца рыцарскія турніры ў Млазавіцах. Сёлета туды прыехала некалькі дзесяткаў хлопцаў з пяці рыцарскіх клубаў і каля сотні чалавек „групы падтрымкі” з розных гарадоў Беларусі. Сучасныя рыцары ва ўсім прытрымліваюцца старажытных традыцый. Яны робяць сабе сапраўдныя мячы і даспехі, а ў гэты раз прывезлі гакаўніцу, якая нячаднa паліла падчас узяцця замка.

Імпрэза пачалася з параду па Млазавіцах чэшскіх і беларускіх рыцараў. Наперадзе беларусаў хлопчык нёс бел-чырвона-белы сцяг. Затым дзеянні перанесліся на поле, на якім пачаўся рыцарскі турнір. Лепшыя прадстаўнікі клубаў сходзіліся ў двубоі.

Пасля рыцары падзяліліся на дзве групы — атакуючых і абаронцаў, каб адыграць узяцце замка. (Драўляная рэканструкцыя замка пабудавана адмыслова для правядзення свята). Пачаліся падзеі, дзеля якіх усе і сабраліся ў Млазавіцах. Хлопцы бязлітасна лупцавалі адзін аднаго мячамі па жалезных даспехах. Праз нейкі час нельга было зразумець хто нападае, а хто абараняецца. Урэшце некаторыя ўдзельнікі бойкі пачалі падаць на зямлю, але не ў выніку раненняў (такіх выпадкаў на шчасце не было), а ад стомленасці. Трэба адзначыць, што рыцарскія даспехі важаць ці не больш 50 кілаграмаў.

Калі замак быў „узяты”, рыцары далучыліся да шматлікіх гледачоў, каб сумесна выпіць піва. Тут беларусы здзівілі чэхаў сваімі песнямі, якія выконвалі ўдзельнікі „бітвы” і „група падтрымкі” пад кіраўніцтвам былога лідэра групы „Камелот” Зміцера Сідаровіча.

Затым беларускую дэлегацыю чакала экскурсія па Празе, а па дарозе дахаты знаёмства са старажытным Кракавам.

**Зміцер Кісель**

## „Рацыя” пачне вяшчаць навосень

У пачатку гэтага месяца Юліуш Браўн, старшыня Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання, падпісаў канцэсію для радыёстанцыі „Рацыя”, якая будзе вяшчаць беларускамоўныя перадачы на звышкароткіх (105,5 MHz; Беласток, навакольле) і кароткіх хвалях (61,75; 61,65; 60,35 kHz; астатняя частка свету).

Радыё „Рацыя” мае быць культурнаінфармацыйнай радыёстанцыяй пад кіраўніцтвам суполкі з такою ж назвай. Пераважны ўдзел у гэтай суполцы мае Беларускі саюз у Польшчы.

Закон уводзіць абавязак выпусціць у эфір першыя перадачы на працягу трох месяцаў ад падпісання канцэсіі, у сувязі з чым на тэхнічна-арганізацыйныя пытанні радыё мае час да лістапада. У яго ж пачатку мы ўжо павінны пачуць беларускае „Добры дзень, дарагія слухачы...”

— Кожная нацыянальная меншасць імкнецца пашыраць роднае слова, — кажа Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза, — але дабіцца свайго радыё ў Польшчы ўдалося пакуль толькі беларусам. Прашэнне аб канцэсіі было складзена ў Краёвую раду ў пачатку гэтага года. З таго моманту вакол радыё вырасла многа міфаў, стварала іх таксама прэса, прыдаючы нашай ініцыятыве выключна палітычны падтэкст, што не з'яўлялася праўдай.

Тое, што польская прэса ва ўсёй ініцыятыве ўгледзела толькі адну акалічнасць — „Рацыя” на кароткіх хвалях дасягне сталіцу Беларусі — ды зрабіла з гэтага „вялікую справу” не з'яўляецца ані нечаканасцю, ані недаравальнасцю. Абсалютным аднак кур'ёзам у гэтай справе з'яўляецца факт, што супраць беларускага радыё на старонках гэтай жа прэсы выступілі беларускія інтэлектуалы Сакрат Яновіч і Лявон Тарасэвіч.

**Аляксандр Максімюк**

## Прызнанне ў аўтарытарызме

Аляксандр Лукашэнка намерваецца паўторна балаціравацца на пасаду прэзідэнта Беларусі ў 2001 годзе, перадае „Інтэрфакс”. „Я буду пераконваць людзей аб сваёй здольнасці кіраваць дзяржавай яшчэ адзін прэзідэнцкі тэрмін”, — заявіў ён журналістам у Мінску ў сераду 4 жніўня. Беларускі прэзідэнт абвяргнуў абвінавачанні ва ўстанаўленні ў рэспубліцы дыктатарскага рэжыму. Адначасна ён прызнаўся, што ў сістэме кіравання дзяржавай „існуюць элементы аўтарытарызму”, паколькі немагчыма „пусціць на самацёк” усе працэсы ў эканоміцы краіны „пераходнага перыяду”, якой з'яўляецца Беларусь.

*Лента новостей — 4.08.1999 г. (http://www.polit.ru)*

# Агратурызм — альтэрнатыва сельскай гаспадарцы

Ці агратурызм стане шанцам для занялалай сельскай гаспадаркі? Каб знайсці адказ на гэтае пытанне падаўся я спярша ў Раённы сельскагаспадарчы дарадчы цэнтр у Гайнаўцы, а затым у некалькі агратурыстычных гаспадарак у Гайнаўскім павеце.

Ірэна Сапежка з дарадчага цэнтра апякуецца агратурыстычнымі гаспадаркамі ў Нараўчанскай, Белавежскай і Гайнаўскай гмінах. Агратурызм вядомы ў гэтай ваколіцы з 1992 года. Першыя агратурыстычныя гаспадаркі паўсталі ў Белавежы. Цяпер у Гайнаўскім павеце налічваецца каля 30 такіх гаспадарак. У трох гаспадарках можна пакарыстацца коньмі для язды ў сядле. У іншых гаспадарках можна ўзяць на пракат ровары, грыль, раскласці вогнішча, пакатацца на брычцы. У Нараўцы ў адной гаспадарцы маюць нават корт для тэніса.

— Большасць агратурыстычных гаспадарак узніклі па нашай ініцыятыве, іншыя — у выніку падглядання суседзяў, — расказвае Ірэна Сапежка. — У нашым дарадчым асяродку агратурызмам займаюцца 2-3 асобы. Арганізуем выязныя курсы і на месцы. З 1997 г. вядзем каталог агратурыстычных гаспадарак.

Агратурызмам можа займацца кожны селянін. Не плацячы падаткаў можна трымаць пяць пакояў для максімум 20 турыстаў. У нашым рэгіёне турысты за жыллё плацяць ад 10 да 30 зл. у суткі ад асобы. Да турыста неабходны індывідуальны падыход, паколькі ў кожнага іншыя патрабаванні і розная заможнасць кашалька. Найважнейшае — добрае самаадчуванне турыстаў.

У Старой Юдзянцы, якая ўваходзіць у састаў Гайнаўкі, 18-гектарную агратурыстычную гаспадарку ўжо тры гады вядзе Галіна Сухадола. Дом для турыстаў — два пакоі, кухня і ванная — стаіць на асобным панадворку

— Гараджане адчуваюць сябе вельмі добра. Даспадобы ім цішыня і здаровае паветра, — кажа Галіна Сухадола. — Асабліва ахвотна прыязджаюць сюды варшавяне і сілезцы. Былі ў нас немцы, француз і італьянка. Летась лекары з-пад Познані прыехалі фурманкай запрэжанай у двое коней. Прыбылі яны з Грабаркі, наведалі запаведнікі, царкву ў Гайнаўцы, Белавежу і паехалі ў Януў-Падляшскі. Турысты цікавяцца яшчэ вузкакалейкай, а замежнікі — птушыным запаведнікам. Няма ў нас пастаянных гасцей. Турысты прыбываюць на некалькі дзён, а начлег заказваюць тэлефанічна. Сёлета першыя госці з'явіліся 3 мая. Турыстычны сезон працягваецца да канца верасня. Ад агратурызму мы яшчэ не атрымалі вялікіх даходаў, — прызнаюцца гаспадары, якія якраз звазілі з поля салому і наракалі на нізкія даходы з сельскай гаспадаркі. Калі спытаў я пра цану начлегаў, не адказалі прама. — Цэны ў нас дагаворныя, у залежнасці ад кліента, — пачуў я на канец.

Наведаў я таксама турыстаў, якія затрымаліся ў спадарства Сухадолаў. Госці з Катавіцаў прабывалі з 10 ліпеня па 15 жніўня. Знаходзіліся яны тут ужо ў другі раз. Малако і яйкі купляюць у гаспадароў.

— Галоўнай мэтай нашага прыезду быў Белавежскі нацыянальны парк. Гэта добры зыходны пункт для наведвання Белавежскай пушчы. Былі мы ў Тапіле, царкве ў Гайнаўцы, выязджалі ў Нарвянскі нацыянальны парк. Я аддаю перавагу незалежнасці і таму арганізую сабе адпачынак самастойна, — заявіла турыстка.

Гутарку вядзем седзячы на паветры ля пластмасавага басейна з вадой для дзяцей. Муж маёй субяседніцы выязджае з гаража, каб падацца за пакупкамі. З кухні даходзіць водар рыхтаванай вячэры. Панадворак дакладна прыбраны, расце на ім трохі кветак. Побач сцяна Белавежскай пушчы. Відаць, месца для адпачынку добрае.

У Дубіцкай гміне агратурызм з'явіўся адносна нядаўна. Турыстычныя гаспадаркі ўзніклі ў Ягадніках, Дубічах-Царкоўных, Тафілаўцах, Вітаве і Грабаўцы. Ніна Леанюк гаспадарыць разам з мужам. Жывуць яны ў Дубічах-Царкоўных, але дом для турыстаў знаходзіцца ў Грабаўцы. Агратурызмам займаюцца год і не наракаюць.

— Турысты прыязджаюць на роварах. Напрыклад, прыязджаў грыбнік з Лодзі, які прывозіў з сабою ўсё, нават вядро для мыцця. Спаў на сене ў спальным мяшку. Абяцаў, што прыедзе з усёй сваёй „брыгадай". Былі немцы і „рускія". Бяру танна, бо па 6 зл. ад асобы за суткі. Некаторыя даюць больш. Трэба ліквідаваць гаспадарку, каб больш часу адвесці турыстам. Агратурызм — добры інтарэс, асабліва калі сельгаспрадукцыя становіцца нерэнтабельнай. Хачу зрабіць дзве ванныя і давесці газ, — плануе Ніна Леанюк.

Мая субяседніца атрымала таксама дазвол на пракат брычкі над залівам у Дубічах, але з-за недахопу часу не займаецца гэтай паслугай.

1 чэрвеня г.г. агратурыстычную гаспадарку ў Дубічах-Царкоўных зарэгістравала Вольга Скавародка. У яе 2 гектары зямлі, дзве каровы, авечкі, хатнія птушкі.

— Да гэтай пары было мала турыстаў. Прыехала некалькі гасцей з Варшавы і двое з Беларусі, пабываў яшчэ ўкраінскі калектыў з Роўна. У мяне тры пакоі для дзесяці чалавек, але магу пераначаваць больш. Наведвальнікам прапаную пячэнне хлеба, яйкі, малако і нават харчаванне. Пачатак бывае складаным. Малавата рэкламы пра прыпушчанскі агратурызм. Прашу сваіх турыстаў рэкламаваць нашу тэрыторыю. Планую паставіць рэкламны стэнд каля дома і пры шашы Гайнаўка — Кляшчэлі. Дадатковы даход мне вельмі патрэбны, бо ў мяне пяцёра дзяцей і ўсе вучацца. Калі б было больш турыстаў, я ахвотна інвеставала б у гэты інтарэс, — прызнаецца Вольга Скавародка.

У Тафілаўцах кватэры для турыстаў зарэгістравала Ірэна Рыбак. Яе муж вядзе фірму „Dworek Polski" і часта выязджае на будаўнічыя пляцоўкі ў Варшаву. Спадарыня Ірэна заступае мужа і нямнога часу застаецца ёй на агратурызм.

— Адзін пакой заўсёды ў мяне падрыхтаваны на прыезд турыстаў. Перш за ўсё прыязджаюць знаёмыя. Магчымыя кліенты тэлефануюць і пытаюць ці блізка вада і лес. На жаль, да заліву ў Дубічах-Царкоўных 4 км, таму няма многа ахвотных прыязджаць сюды, — канстатуе Ірэна Рыбак.

Абагульняючы сказанае маімі субяседнікамі можна меркаваць, што агратурызм можа стаць шанцам для сялян прыпушчанскіх вёсак. Дзеля гэтага патрэбны рэкламная акцыя і невялікія інвестыцыі — перш за ўсё ванныя, месцы для спання і добраўпарадкаванае месца вакол кватэр. Сяляне не павінны баяцца новага! Кантактуйцеся з дарадчым цэнтрам: Rejonowy Zespół Doradztwa Rolniczego, ul. Lipowa 20, 17-200 Hajnówka, tel. 682-20-10.

Славамір Кулік

# Еўрапеізацыя Алексічаў

Бацька мой не раз расказваў, што пры санацыі межы паміж двума суседскімі палямі былі так ачышчаны ад усялякай расліннасці, што можна было на іх знайсці згубленую іголку. Спачатку траву на іх касілі, пасля пасвілі кароў ці авечак. Дваццаць гадоў таму, пры панаванні Герка, ніхто ўжо не звяртаў увагі на вузенькія межы, але трава вакол палявых дарожак была найчасей выкашана або выпасена жывёлай. Дарэчы, не было гаспадара, які не меў бы каня і некалькі штук кароў, не ўспамінаючы пра немалы статак свіней. Усё, што стаяла ў хляве летам і зімою патрабавала травы, таму гаспадар не мог сабе дазволіць марнаваць расліннасць, якую карова можа пераварыць у малако ці кілаграмы мяса. Хаця ніхто ўжо ў сямідзесятых гадах не судзіўся з братам ці суседам за зямлю і перастала яна мець такую вартасць як у міжваенны перыяд, але аблагоў яшчэ нідзе не было.

Сёння ў маіх Алексічах асталося яшчэ чатырох маладых людзей, якіх можна назваць гаспадарамі. Невялікія кавалкі зямлі абрабляюць яшчэ некаторыя пенсіянеры. Робяць яны гэта хутчэй па прывычцы чым з-за эканамічнага рахунку. Большасць зямлі ляжыць аблогам, вакол віднеюць някошаныя лугі, а ў параўнанні да сямідзесятых гадоў статак кароў скараціўся ў пяць разоў. Руіна вясковай гаспадаркі наступіла асабліва ў апошніх гадах. Прычыны гэтага працэсу даволі вядомыя. Цэны на сялянскія тавары не рэкампенсуюць выдаткаў іх прадукцыі.

Традыцыйная сельская гаспадарка, якая на працягу стагоддзяў давала магчымасць неяк пражыць жыхарам усходняй Беласточчыны, мусіла трэснуць у канфрантацыі з заходнееўрапейскай эканомікай. Тады, калі алексіцкі селянін атрымліваў з аднаго гектара 2-3 тоны пшаніцы, яго нямецкі калега малаціў з такога самага арэала 8-9 тон. Улічваючы кошт падрыхтоўкі поля і рэальныя цэны на еўрапейскіх біржах, прыбытак атрымліваецца толькі тады, калі селянін з аднаго гектара можа прадаць больш за 3,5 тоны. Значыць гэта, што пры адкрытых межах з Заходняй Еўропай наш селянін будзе мог толькі даплачваць да свае працы, а сама праца можа стаць каштоўнай забавай для аматараў.

Трымаць кароў дзеля продажу малака цяпер не аплачваецца. Некалькі разоў таннейшае яно ад вады. На літр піва трэба прадаць 10 літраў малака, а калі б селянін захацеў выпіць яго ў беластоцкай піўнушцы, мусіў бы страціць 25 літраў. Таму ў Алексічах замест 5-8 кароў людзі пачалі трымаць 1-2, абы мець малака для ўласнага карыстання. Няма тады патрэбы касіць усе лугі, садзіць бручку, буракі, каб мець чым карміць жывёлу зімою.

Сялянскую эканоміку ратуюць пенсіі, якія штомесячна атрымоўваюць пажылыя людзі, складаючыя пераважную большасць вясковага насельніцтва. Пры невялікіх выдатках на камунальна-сацыяльныя патрэбы, платы пенсіянераў з'яўляюцца важнай крыніцай кумуляцыі капіталу, дазваляючай на ўдзел у капіталістычным спажыванні. Але гэты капітал не натуральны, не выпрацаваны вясковым асяроддзем, а толькі перанесены праз пасрэдніцтва падаткаў з іншых галін гаспадаркі. У недалёкай будучыні, па дэмаграфічных прычынах, стане ён нашмат меншы, што паспрые падзенню нашай традыцыйнай вёскі.

Ці на яе руінах узнікне нейкая іншая форма сельскагаспадарчай актыўнасці? На тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны няма такіх прадпасылак, таму што няма ні інфраструктуры, ні людзей падрыхтаваных да канкурэнцыі ва ўмовах, якія навязвае ўваход Польшчы ў структуры Еўрасаюза. У Заблудаўскай, Міхалоўскай ці Гарадоцкай гмінах толькі нешматлікія адзінкі гатовыя весці фермерскую гаспадарку паводле заходнееўрапейскіх узораў. Большасць вёсак у названых гмінах, у найлепшым варыянце, можа стаць месцам адпачынку для ўнукаў іх былых жыхароў. Троху капіталу наплыве туды з горада на рамонт дзедавых хатаў, але ні залатоўкі не дастанецца на сельскагаспадарчыя інвестыцыі. На палях, дзе яшчэ дзесяць гадоў таму сеялі авёс і жыта, памалу ўжо вырастае пушча.

Яўген Мірановіч

# Адны няўдачы

Сялянам не паспрыяла надвор'е ў гэтым годзе. Вясною прымарозіла, а летам сонцам высушыла. Ураджай сёлета слабенькі, збожжа дробнае. Ды каму яго прадаць, каб хоць кошт уборкі і пасеву вярнуць?

На рынку пакупніка не знойдзеш. А чыноўнікі дзяржаўных установаў толькі абяцаюць. Сапраўднай скупкі як не было, так і няма. Ды якія цэны прапануюцца селяніну?..

Панядзелак, 9 жніўня. Пры складах бельскіх ПЗЗаў у Кляшчэлях ніводнай фурманкі. Адзін маленькі „Фіацік" стаіць.

У канторы трох мужчын хочуць даведацца як прадаць жыта.

— Вы таксама хочаце прадаць? — кідае ў мой бок работніца канторы.

— Я толькі хачу даведацца...

— Скупку мы вядзем для Агенцтва сельскагаспадарчага рынку, — пачынае загадчыца складоў. — За першы сорт плацім па 32 злоты за цэнтнер і 4 зл. даплачваем Агенцтву. Ды жыта мусіць адпавядаць якасным параметрам. Тады і заплацім належную стаўку. Калі зміяшчаецца ў 80%, можам купіць па 22 зл. на ўласныя патрэбы. Самае дробнае зерне купляем на пашу па стаўцы 18 зл. за цэнтнер.

— Ці нехта прадаваў ужо? — пытаю.

— Адзін чалавек з-пад Седльцаў прывёз сем тон, — паясняе загадчыца. — Яго збожжа падыходзіла толькі на пашу. Ён згадзіўся. Але калі разгрузіў, дык пачаў скардзіцца, што мы яго ашукалі. Пачаў званіць у Беласток па ўсялякіх установах, ды не да тых, хто быў бы кампетэнтны.

Тром мужчынам загадчыца заявіла, што іхняе жыта таксама надаецца толькі на пашу. І яны з гэтым пагадзіліся.

— А як з пшаніцай? — пытаю.

— Пакуль не бярэм. Няма загаду.

Пакідаю кантору. Спаглядаю на дванаццаць магутных элеватараў, з якіх кожны змяшчае 150 тон збожжа. Кляшчэлеўскія склады могуць купіць ад сялян 3 600 тон збожжа. Тое што я пачуў у канторы прадвяшчае, што яны ў гэтым годзе будуць пуставаць. Бо і хто згодзіцца прадаць за 18 зл. цэнтнер жыта?

Уладзімір Сідарук

# „Глыбоччына: пагляд у мінулае"

21-23 чэрвеня ў Глыбокім адбывалася навукова-краязнаўчая канферэнцыя, якую ладзілі Глыбоцкі гісторыка-этнаграфічны музей і Глыбоцкае краязнаўчае таварыства „Спадчына". Апрача навукоўцаў і краязнаўцаў удзел у канферэнцыі прынялі глыбачане, якія зараз пражываюць у Польшчы. Глыбокае — гэта раённы цэнтр Віцебскай вобласці. Канферэнцыя не абмяжоўвалася сучаснымі межамі адміністрацыйнага падзелу. Да вайны межы Глыбоччыны былі крыху іншыя і само Глыбокае ўваходзіла ў Дзісненскі павет ІІ Рэчы Паспалітай. Выхад за сучасныя межы Глыбоцкага раёна даў уяўленне пра гісторыю гэтай зямлі, звязанай так блізка з Браслаўшчынай ці Віленшчынай.

Выступленні засяроджваліся галоўным чынам на гістарычных месцах, помніках архітэктуры і вядомых постацях, звязаных з рэгіёнам. Успаміналіся часта ўладальнікі Глыбоччыны з родаў Корсакаў і Зяновічаў, глыбачане — папулярны ў міжваенны перыяд пісьменнік Тадэвуш Далэнга-Мастовіч, аўтар „Знахара" і беларускі дзеяч Клаўдзій Дуж-Душэўскі (1891-1959), мастак Язэп Драздовіч (1888-1954), народжаны ў засценку Пунькі, а пахаваны ў Ліплянах. Пра свайго бацьку Аляксандра ўспамінаў Аляксандр Сабалеўскі з Масквы. Аляксандр Сабалеўскі быў беларускім дзеячам у перыяд БНР у Мінску, працаваў у педагагічным інстытуце разам з Вацлавам Іваноўскім. Савецкія ўмовы жыцця прымусілі яго ўцякаць у Глыбокае. У памяці мясцовых жыхароў па сённяшні дзень захаваўся доктар Гушча, які жыў у Малым Дворку каля Глыбокага. Зараз яго жонка (103 гады) і дачка жывуць у Беластоку. На канферэнцыю прыехала ўнучка Мар'я, якой удалося сустрэць старажылаў, памятаючых яе дзеда як нязвыклага дабрадушнага чалавека. Падарыла яна Глыбоцкаму музею сямейныя памяткі. Доктар Гушча быў зняволены ў Беразвечы, непадалёк Глыбокага ў час савецкай акупацыі 1939-1941 гг. Даўні базыльянскі кляштар, перла віленскага барока, служыў для НКВД вязніцай. Савецкія ўлады трымалі там глыбоцкую і навакольную інтэлігенцыю. 24 чэрвеня 1941 г. шмат вязняў супрацоўнікі НКВД пастралялі, а апошніх пагналі ў напрамку Улы. Міхал Раговіч, якому ўдалося перажыць бярэзвецкае пекла, так успамінаў той дзень: „24 czerwca 1941 r. o drugiej rano zbudzono nas i kazano zabierać się z rzeczami, wychodzić na dziedziniec klasztorny. Posadzono wszystkich na ziemi, otoczono nas kordonem uzbrojonych drabów z psami. Mieli duże karabiny z bagnetami. Psy ujadały, niektóre miały siatki na pyskach, niektóre były bez kagańców. W tłumie więźniów znajdowały się kobiety, księża, zakonnicy, oficerowie, nauczyciele, lekarze, adwokaci — przeważnie inteligencja. Mimo że wszystko odbywało się po cichu i w tajemnicy, wiedzieliśmy, że zaczęła się wojna i dlatego mają nas wywieźć. Dokąd — nikt tego nie przewidywał. Nie dano nam jeść ani pić, oczekiwaliśmy nieznanego" (K. Popiński, A. Kokurin, A. Gurjanow, *Drogi śmierci. Ewakuacja więzień sowieckich z Kresów Wschodnich II Rzeczypospolitej w czerwcu i lipcu 1941*, Warszawa 1995, s. 65).

У спешцы расстрэлы пачаліся яшчэ на месцы. Спадарыня Хрысціна Мількевіч была тады дзіцём і памятае, што побач іх жыў адзін энкавэдзіст, які пасля пагрому вярнуўся п'яны дадому і крычаў, што сам асабіста забіў 30 асоб.

Падчас нямецкай акупацыі таксама там знаходзіўся канцэнтрацыйны лагер. На працягу 1941-1944 гг. было там знішчана каля 27 тысяч савецкіх і каля 200 італьянскіх ваеннапалонных. Зараз у кляштарных будынках далей знаходзіцца турма. Нічога не напамінае, што гэта помнік архітэктуры. Да таго каля 1970 г. савецкімі ўладамі быў знесены беразвецкі храм — шэдэўр еўрапейскай архітэктуры. Зараз копія беразвецкага касцёла знаходзіцца ў Беластоку пры вул. Канстытуцыі 3 Мая.

Першы раз пасля звыш 50 гадоў у Глыбокае прыехаў Вальдэмар Варніцкі, які жыве каля Жыўца, у Радзехонах. „Глыбокае надта змянілася. Nie poznaję", — казаў. Сярод глыбачан былі таксама Мар'я Якубоўска з Могельніцы, якой бацька быў расстраляны НКВД у 1941 г., Каміль Кшэміньскі з Вроцлава, які цікавіцца гісторыяй школьніцтва у былым Дзісненскім павеце; Міхал Вазгірд з Торуні, хімік, даследчык біяграфіі Т. Далэнгі-Мастовіча. І пакольні была гэта краязнаўчая канферэнцыя, удзельнікі наведалі Глыбоцкі гістарычна-этнаграфічны музей. Ёсць там месца адведзенае К. Дуж-Душэўскаму, Я. Драздовічу і яго карцінам. Працуюць там маладыя энтузіясты краязнаўства. У гарадскім цэнтры культуры якраз знаходзілася фатаграфічная выстаўка „Глыбокае ўчора і сёння". Сумнае сёння. Тое, што было цікавае — страчанае. Прыйшлося пазнаёміцца з Уладзімерам Скрабатуном — аўтарам кніжкі „Глыбокае на старых паштоўках", выдаўцом газеты „Вольнае Глыбокае". Кніга пра Глыбокае настолькі цікавая, што зараз здабыць яе немагчыма. Проста разышлася. Таму і не адбылася запланаваная прамоцыя, бо не было чаго прапагандаваць. Узгадвалася, што добра было б перакласці яе на польскую мову, выдаць яшчэ раз.

Апрача У. Скрабатуна ў канферэнцыі ўдзельнічалі апантаныя краязнаўцы і фанаты мясцовай гісторыі: Язэп Бунто з Глыбокага, Вітаўт Ермалёнак з Міёраў, Язэп Зямчонак з Паставаў, Кастусь Шыдлоўскі з Браслава, Кліменцій Кожан з Германавіч.

У наваколлі Глыбокага наведалі мы таксама касцёл у Мосары, у якім служыць літовец ксёндз Юозас Булька. Вельмі цікавае наваколле касцёла, перад якім святар разбіў парк. У касцёле захоўваюцца рэліквіі св. Юстына. У недалёкай Пятроўшчыне ўдзельнічалі мы ў імшы для гасцей з Польшчы. Капліца ў Пятроўшчыне — гэта былы дзіцячы сад. Набажэнства адбывалася, як гэта звычайна ў Беларусі бывае, на польскай мове, а спевы — на беларускай.

Паездку ў Глыбокае з Гародні арганізаваў прафесар Андрэй Майсяёнак, старшыня Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі. Сам па паходжанні глыбачанін шмат сэрца ўклаў, каб канферэнцыя была цікавая і аб'ёмістая па ліку тэмаў. Па дарозе з Гародні ў Глыбокае наведалі мы руіны замка ў Гальшанах і тамашні школьны музей, якім кіруе Эдуард Корзун. Не абмінулі таксама руінаў замка ў Крэве.

**Лена Глагоўская**

# Навеянае падарожжам у Беларусь

У маі міністр замежных спраў РП выказваўся: „У Беларусі парушаюцца правы чалавека" і таму я, прабываючы там ад 28 мая да 8 чэрвеня стараўся прыкмеціць, як сапраўды выглядаюць тыя справы. На граніцы ніхто не заглядаў у мой чамаданчык, але беларускія мытнікі загадалі ўсім высесці з аўтобуса і дакладна абшукалі ў ім усе закуткі, ці хтосьці не перавозіць зброю. Гэта, здаецца, навука Косава, дзе цераз кантрабанду была ўзброена Албанская вызвольная армія.

Я пабываў у Ваўкавыску. На Тройцу зайшоў у галоўную царкоўку. Людзей было ў ёй поўна, але, галоўным чынам, жанчын. Мужчын было мала — у час багаслужбы або глядзяць матч, або едуць на рыбалку. Святары адукаваныя, гавораць багатыя ў змест пропаведзі, не дапускаючы граматычных памылак. Каля царкоўкі будуецца вялікая царква, але, хоць будова працягваецца больш за пяць гадоў, не зроблены яшчэ купалы. Прычына — надахоп фінансавых сродкаў і кваліфікаванай рабочай сілы.

Пабываў я і ў касцёле. Касцёл агромны, абноўлены, стаіць на высокім месцы. У ім і наўкол яго шмат народу, у тым ліку мужчын і моладзі. Усюды чуваць польскую мову. Прыбылыя з Польшчы два сімпатычныя ксяндзы гавораць пропаведзі на літаратурнай польскай мове, без ніякіх беларусізмаў ці русізмаў. Калі ў касцёл зойдзе нейкі вядомы беларускі чыноўнік, размаўляюць з ім па-польску, таму што палякі ў Беларусі і іх ксяндзы не падаўлены неіснуючым тут псіхалагічным тэрорам ці варожасцю, таму не маюць патрэбы нізкапаклоннічаць перад беларусамі і іх чыноўнікамі. Як жа іначай у нас, у Беластоку, дзе праваслаўныя нават каля царквы саромяцца размаўляць па-свойму, баяцца запісаць кірыліцай імёны памерлых, а прыбыццё ў царкву нават другараднага польскага чыноўніка прымушае святара перайсці на польскую мову!

Зайшоў я і на каталіцкія могілкі. Амаль усе надпісы на крыжах — на польскай мове. Быў я і на пахаванні; хавалі паляка, але прысутнічалі і яго суседзі-беларусы. Ксёндз прамаўляў над магілай таксама па-польску. Як гэта выглядае ў Беластоку, вядома. Не ў карысць праваслаўнай меншасці. Я пайшоў і на ваенны могільнік, які знаходзіцца каля каталіцкага. Там пахавана 175 польскіх жаўнераў і 5 афіцэраў, што загінулі ў вайну 1919-1920 гг. Усе крыжы і помнікі на магілах абноўлены. І хаця пахаваныя тут афіцэры вялі сваіх жаўнераў на захоп беларускіх зямель і зняволенне іх уладальнікаў, ніхто тут не разбурае і не ганьбіць гэтых помнікаў і крыжоў, як гэта бывае ў Польшчы з помнікамі камандзірам і салдатам Савецкай Арміі, што прагналі з польскай зямлі фашыстаў.

У Ваўкавыску ў 3 сярэдніх школах ёсць польскія класы. У хуткім тэмпе будуецца польская сярэдняя школа, у цэнтры горада, насупраць райвыканкама, каля музычнай школы. Прыгожую гэту школу будуюць польскія фірмы, і мае яна быць гатова да 1 верасня. Усе прадметы будуць тут выкладацца на польскай мове настаўнікамі з Польшчы і па польскай праграме, што нідзе ў свеце не практыкуецца ў міждзяржаўных адносінах. Фінансавыя сродкі на будову польскіх школ, рамонт касцёлаў, аднаўленне польскіх могілак і аб'ектаў польскасці на беларускіх землях ідуць без перапынку з Польшчы. Польскую дзейнасць у Беларусі мясцовыя арганізацыі палякаў і польскі ўрад праводзяць напорыста і пры найменшым непаразуменні ўздымаюць гучны крык аб недэмакратычнасці беларускіх улад. Шмат хто з беларусаў гаворыць пра дзейнасць польскай „пятай калоны", што імкнецца да таго, каб захапіць і кіраўнічыя пасады ў краіне!

У Ваўкавыску, як і ўва ўсіх гарадах Беларусі, ёсць вуліцы вялікіх палякаў, стваральнікаў польскай культуры — А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, М. Канапніцкай, Э. Ажэшкі, Ф. Шапэна, М. Агінскага ці Т. Касцюшкі, а нават крывавага Ф. Дзяржынскага. Шкада, што ў Польшчы не папулярызуецца месца нараджэння хоць бы маршала Васіля Данілавіча Сакалоўскага, беларуса, народжанага ў 1897 годзе ў вёсцы Зверкі, што каля Заблудава, які сябе нічым не скампраметаваў, а ў часы апошняй вайны паказаў немалую вайсковую ўмеласць пры вызваленні земляў Беларусі і Польшчы. І вуліцы не мае гэты герой, ні помніка нават у месцы свайго нараджэння.

Беларусы ў сваёй дзяржаве не пішуць падобных надпісаў як у Беластоку на сценах цэркваў, агароджах і праваслаўным могільніку („Ruscy won!"). У Беларусі палякі не баяцца напісаць у анкетах сваю нацыянальнасць, ведаючы, што гэта ім не пашкодзіць у жыцці і працы.

Я лічу, што нацыянальныя меншасці ў Польшчы так прыбіты пасляваенным крывавым тэрорам і шматвяковым шляхецкім прыгнётам, што людзі нават у сваіх кватэрах баяцца размаўляць на сваёй мове, бо могуць пачуць суседзі, а дзеці будуць дыскрымінаваны ў акружэнні польскіх дзяцей, калі будзе заўважана іх іншасць. Пасляваенныя атрады польскага падполля ў перыяд 1944-53 гадоў на адной толькі Беласточчыне забілі 2782 чалавекі, у тым ліку жанчын і дзяцей, у асноўным — непалякаў. На тыя злачынствы няма крытыкі, забойцы — у арэолах герояў, а ваявода не дасць дазволу адпаведна ўшанаваць пакутнікаў. Спадар міністр, здаецца мне, што гэта ў Польшчы парушаюцца правы меншасці і нічога не робіцца, каб змяніць саромнае прошлае! А месца Польшчы — сярод дружалюбных, сапраўды прыязных ёй краін, перш за ўсё — славянскіх.

**Мікалай Капчук**

# Знішчэнне мовы

***(працяг; пачатак у 31 н-ры)***

**4. Прыніжэнне статусу мовы**

Можна даравацъ Кацярыне ІІ, калі тая ўпэўнена пісала асветніку М. Грыму, што „ва ўсёй Літве ўсе справы ўва ўсіх судах у XVII ст. вяліся на рускай мове, што ў літоўскіх архівах усе акты напісаны рускімі літарамі на рускай мове". Каб апраўдаць прыяднанне „Літвы", г.зн. Беларусі і Летувы, чаго не напішаш? Тым больш, што „літоўскую" мову часта тады блыталі з „рускай", бо апошнім найменнем называлі тагачасныя рускую, украінскую і беларускую мовы.

Тое, што беларуская мова існуе як самастойная, у першай палове XIX ст. пераканаўча даказвалі славісты П. Шафарык, А. Шляйхер, Ф. Міклашыч, І. Срэзнеўскі.

Іншых поглядаў прытрымліваўся публіцыст Вісарыён Бялінскі: „Мы маем поўнае права сказаць, што цяпер ужо не існуе маларасійскай мовы, а ёсць абласны маларасійскі дыялект, як ёсць БЕЛАРУСКІ (вылучана мною — В. Г.), сібірскі ды іншыя падобныя ім дыялекты". Якой мовы, зразумела.

Так ацэньваў нашу мову рэвалюцыйны дэмакрат суседняга народа. Чаго ж можна было чакаць ад рэдакцыі „казённой рептилии" пры канцылярыі віленскага генерал-губернатара М. М. Мураўёва-Вешальніка — часопіса „Вестник Западной России"? У лютым 1863 г. падчас вызваленчага паўстання на Беларусі супраць царызму гэты орган друку на прапанову апекуна Віленскай навучальнай акругі князя Шырынскага-Шыхматава, які лічыў патрэбным тлумачыць у расійскіх школах для беларускіх дзяцей значэнне расійскіх слоў „белорусским наречием", адгукаўся так: „Але навучаць на беларускім ЖАРГОНЕ (падкрэслена мною — В. Г.) — гэта бяссэнсіца, якая, дзякаваць Богу, яшчэ не ўсплыла на розум нікому з беларусінаў". Дадамо, што прапанова князя так і не была прынята.

Дакладна так пагардліва да беларускай мовы адносіўся кожны „ісцінна расійскі чалавек, вялікарос-шавініст, нягоднік і гвалтаўнік, якім ёсць тыповы расійскі біюракрат" (згодна характарыстыкі У. І. Леніна). Ці далёка ад яго адышлі тыя абывацелі, што прыехалі ў Беларусь на службу або пасля атрымання пенсіі ў іншых мясцовасцях СССР? ***(працяг будзе)***

**Валянцін Грыцкевіч**

# „Нібыта музыка жывая...”

*Мастацкі прыём, калі гаворыцца пра частку прадмета замест цэлага, заснаваны на іх падабенстве, аналогіі.*

***(Са слоўнікаў)***

Верш „Адысей і Наўзікая” адкрывае новую паэтычную публікацыю Яна Чыквіна. Дарэчы, яна з'явілася ў канцы мінулага года пасля некаторага „маўчання” паэта[1], і адразу ж звярнула на сябе ўвагу менавіта гэтым творам. Ён вельмі хутка, актыўна ўвайшоў у літаратурны працэс, стаў уплывовым. Ужо 31 студзеня 1999 г. на 12-й старонцы „Нівы” мы пазнаёміліся з гумарыстычнай замалёўкай „Паэт і Наўзікая” Адама Маньяка. І 21 лютага блізкая тэматыка не пакідала яго ж хваляваць у „разважаннях” „Адысей і Кірка”, а Сяргей Чыгрын побач у парадыйных вершах не забыўся на старажытнагрэчаскі Парнас. (Літаратурныя пародыі ў „Ніўцы” яшчэ чакаюць даследаванняў крытыкі). 14 мая на паэтычнай вечарыне ў Мінскім Доме дружбы верш стаў аб'ектам увагі прысутных — студэнтаў Белдзяржуніверсітэта, крытыкаў, паэтаў, артыстаў, рэдактараў газет, часопісаў. Як адна з удзельніц гэтай размовы магу сказаць, што яна падалася мне вельмі плённай. Падставы для гэтага даў найперш сам прадмет абмеркавання.

Анталагічную замалёўку „Адысей і Наўзікая” смела можна назваць адной з самых жыццесцвярджальных прац паэта. Здаецца, пра свежасць першапачуццяў, раніцу сусвету з такім захапленнем, узнёсласцю духу не пісалі нават у самыя запаветныя антычныя часіны! Створаны паэтычны малюнак так поўніцца святлом і бляскам паўднёвага сонца, што колераў немагчыма ўгледзець. А ў вершы з гэтай прычыны зусім апраўдана не названы аніводзін колер. Тут пануе лінія, пластыка, дастаткова абрысаў форм прадметаў, поз, мімікі. Сюжэт развіваецца як паслядоўная змена статычных сцэн:

*У прыбярэжным трысці зморany*
*спаў Адысей;*
*... на бераг рабыні прыйшлі і паселі,*
*Каб глядзець;*
*... ідзе па пяску нібыта музыка*
*жывая,*
*Нібыта хваль марскіх накат,*
*што самі сабою граюць,*
*Царэўна..., багіням роўная,*
*раздзетая Наўзікая;*
*Перад красою цела юнага краса*
*нат мора адступала;*
*Рабыні ўскрыкнулі, калі ён*
*з'явіўся ім голы*
*І стаяў.*

Завяршаецца верш скульптурнай кампазіцыяй, што выяўляе апагей моцы і складанасці пачуццяў герояў:

*І стаяў, аслеплены бляскам*
*яму незнаёмай дзевы.*
*Ды вочы [дзяўчыны — Л. З.]*
*таксама глядзелі*
*На статнага мужчыну. Падумала:*
*„Вось мне такога мужа!..*
*Але аб гэтым не сказала анічога*
*Адысею Наўзікая,*
*Толькі мовіла: „Госцем будзь*
*у бацькоў маіх...*
*... Ідзі за мною...”.*

У вершы Чыквіна даўнія падзеі старажытнай „Адысеі” Гамера бачацца з пазіцый нашага стагоддзя. Культура былой эпохі, адлюстраванне знешняга вобліку чалавека захавалася для нас пераважна ў „застылых” формах скульптуры. Паэт падкрэслівае неакрытыя пастаці сваіх герояў: „раздзетая Наўзікая”, Адысей „голы”. Яны нібы ззяюць святочнасцю сваёй аголенасці, што дапамагае выявіць імпульсіўную непасрэднасць, наіўную шчырасць эмоцый у рухах, лініях цела. Адысей і Наўзікая Чыквіна ў пэўным сэнсе псіхалагізм сваіх пачуццяў не належаць аніякаму „злічанаму” часу, выяўляюць вечныя і нязменна прыгожыя пачаткі маладосці, моцы кахання, прадчування бясконцасці жыцця і шчасця.

Але ўся сутнасць верша не вычэрпваецца толькі гэтым мастацкім пластом, „усеагульным сучасным” поглядам на антычнасць. „Чысты тон” эпохі ўзбагачаецца мноствам „абертонаў” — асобаснага, уласна-чыквінскага паэтычнага бачання. Можа здацца парадаксальным на знешні погляд, што пазначыўшы на першым месцы ў назве твора імя сусветна вядомага Адысея, вызначыўшы яго ў галоўныя героі, паэт сказаў пра яго толькі 16 слоў, усяго 3 радкі:

*У прыбярэжным трысці зморany спаў Адысей;*

Акрамя сну ў Адысея ўсё забрала прагнае мора;

*... ён з'явіўся голы*

*І стаяў аслеплены.*

Каб апісаць яго ўчынкі спатрэбілася ўсяго тры дзеясловы, што абазначаюць вельмі ж пасіўныя станы: *спаць, з'явіцца, стаяць*. Наш герой не вымавіў нават выклічніка. Параўнаем: *рабыні — прыйшлі, паселі, ускрыкнулі*. Наўзікая ж — ішла ўся ў грацыёзным руху, „нібыта музыка жывая”, яна надзяляе рухам Адысея: „Ідзі за мною”. Наўзікая ўвасабляе гарманічныя ўзаемаўплывы ва ўсім акаляючым свеце. Яе рух павольна адбіўся ў хвалевай паверхні прыбярэжнага пяску, аб'яднаўся са зменлівай лініяй марскіх хваль. (Успомнім, Афрадыта нарадзілася менавіта з іх пены). Паверхня пяску ў сваю чаргу падобная на застылы, графічна запісаны гук, а марскія хвалі рухам гэтай сінусоіды таксама і нараджаюць рэальны гук. А той ужо набывае вышэйшую ступень дасканаласці ў хадзе Наўзікаі, падобнай да ідэальна арганізаваных гукаў — музыкі. Здаецца, дзякуючы ёй сусвет рухаецца і гучыць, аб'яднаны ў агульнай сімфоніі. Адысей — „стаіць аслеплены”, бо ўсёй сутнасцю сваёй успрымае суб'ект выпраменьвання жыццёвай энергіі. Між тым як Наўзікая — валодае сваімі эмоцыямі, думкамі. Яе „вочы глядзелі”, а мроі сягалі ў практычны план пабытавых рэалій: „замуж пара”, „адзежа вымыта”, „бацькі”, „накарміць”. Яна ўбачыла — адно, „падумала” — пра другое, „але аб гэтым не сказала анічога”, „толькі мовіла” — трэцяе, і памкнула за сабою — маючы на мэце нешта яшчэ. „Хітрамудрай” здаецца менавіта яна, а не Адысей, як у Гамера. Жаночы пачатак амаль заўсёды ў паэзіі Чыквіна найбольш актыўны, моцны, наступальны. (Успомнім вершы „Асіметрыя”, „Жанчына...”, „Малітва”, „Айкумена”). Такі ж мастацкі феномен, прыём раскрыцця характару цэнтральнага персанажа — роля вядзёнага ў сюжэтным руху — не часта сустрэнем у сусветнай культуры. На памяць прыходзяць знакамітая карціна А. А. Іванова „З'яўленне Хрыста народу”, пушкінскі „Моцарт і Сальеры”. Галоўны ўчынак героя — па-за межамі твора. Для сціплых памераў на дальнім плане аблічча Хрыста — яго вучэнне, для „маўклівага” Моцарта — геніяльнасць, для Адысея — магутная паэма пра яго падарожжа, розум, спакусы.

Актыўныя дзеянні, шматслоўе, хітрыкі, мноства дэталёвых рыс (як у Гамера) сталіся б тут залішнімі, іх замяняе наша веданне лёсу героя, яно ж стварае дадатковае эмацыянальнае напружанне чытачу, каб прагназаваць унутраную рэакцыю Адысея на паводзіны Наўзікаі. Менавіта тады адкрываецца нам бясконцы і новы духоўны свет — шчаслівае, абвостранае захапленне красою і гармоніяй, бо Адысей толькі што пазбег гібелі! Але ў гэтай жа ўзнёсласці тояцца яшчэ нябачныя ў руху і нячутныя ў слове насцярожанасць, недавер, адчай. Бо ізноў ён — не дома, не на Ітацы! І што чакаць ад прыгажосці і прыхільнасці жанчыны — ці не палону, як у Каліпсы? Такая псіхалагічная схема пабудовы мастацкага характару, калі за знешне прыўзнятымі, станоўчымі эмоцыямі крыецца трагічны пачатак, таксама арганічна ўласцівы мысленню Чыквіна. У вершы мы бачым знаёмае і новае аблічча мастака, распрацоўку ўжо вядомых у яго раней і нечаканых, новых сродкаў даследавання чалавечага духу, удалае спалучэнне іх. Паэт — змог тут дасканала стварыць атмасферу ўзнёсласці, прадчування шчасця, што пераплятаюцца з пачуццямі разумовай цвярозасці, стрыманасці і сумнення, асацыятыўна звязаць гэту псіхалагічную палітру з настроямі сённяшняга дня.

**Людміла Зарэмба (Мінск)**

[1]Зборнік „Свет першы і апошні” трапіў да чытачоў у кастрычніку 1997, а часопіс „Тэрмапілы” з азначаным вершам — у лістападзе 1998 г.

# Фірма

***(працяг; пачатак у 31 н-ры)***

**4.**

Бразгат ключоў увarваўся ў глыбокі, бестурботны сон. „Будзі гэтага зас... дырэктара”, — быццам з другога свету даляцеў чыйсьці незнаёмы голас і Толік, перамагаючы манатонны шум у галаве, пралупіў вочы. Замест шпалераў — ружовых, у вялікія, лапушыстыя кветкі — голая, светла-зялёная сцяна, а ў месцы, дзе здавён-даўна са шлюбнага партрэта спаглядалі на свет пані і пан Рубель, хтосьці, абмінаючы ўсе законы каліграфіі, накрамзоліў: „Быў тут Колька Дынкс”. Ніжэй стаяла яшчэ і дата, аднак адчытаць яе, з пазіцыі супрацьлеглай сцяны, не было магчымасці. Так і давядзецца нам астацца ў глыбокім няведанні, калі ж ён, славуты Колька Дынкс, удастоіў гэтае месца сваёй асобай.

Тым часам дырэктар Рубель, прабіваючыся цераз кардоны салодкай непрытомнасці, стараўся ўзнавіць у памяці заканчэнне апошняга вечара. Не зважаючы на мазгавыя намаганні, шчырыя і натужлівыя, вобраз атрымоўваўся — бы на вадзе. Хісткі, замазаны, недарэчны.

— Конец балю, панно Лялю, — вусаты паліцыянт бесцырымона адкрыў дзверы. — Выспаў норму, дык пад'ём, пан дырэктар. Гі-гі-гі, — выскаліў зубы. — А ведаеш, такіх дырэктараў замёрзла нам гэтай восені ўжо пару дзесятак. Маеш шчасце, што якраз тамака патруль з'явіўся. Падрамантаваў бы статыстыку, сукін кот. Былі ўжо ў калідоры і апошняе вусаты кіраваў не Толіку, а свайму калегу, які побач змагаўся з суседнімі дзвярыма.

— П'янюгі, іхняя маць, — плюнуў пад ногі той, які з суседняй камеры рыхтаваў на волю яшчэ адну падмарожаную душу.

Толіку зрабілася прыкра. Як жа бесцырымонна, як легкадумна праводзіцца дэградацыя з функцыі галоўнага дырэктара на пасаду п'янюгі і сукінага ката. Дык яшчэ — і чыімі рукамі!

Далёкім рэхам вярнуўся ўспамін апошняга вечара. Распалены Млечны Шлях, як гаручае, кавальскае жалеза. Месяц булаватым молатам пастуквае з-за вуха ў зорную бель, моцна, аж кружыцца неба, аж іскрыны падаюць на зямлю. І раптам, у гэты касмічны краявід удзіраюцца тры шапкі, шасцёрка рук адрывае ад тратуара нейкую постаць і, не звяртаючы ўвагу, што расцягнутая на зямлі асоба рэкамендуецца дырэктарам паважнай фірмы ды абяцае з самай раніцы заняцца нахабнымі сторажамі прадку, праклінаючь увесь свет і свой паліцэйскі лёс.

З такімі вось успамінамі, ступаючы следам вусатага праваднiка дабрыў Толік да сядзібы дзяжурнага афіцэра. Гаркаваты арамат ранішняй кавы мяшаўся тут з кіслатою спацелых пасля ўсяночнай службы мундзіраў, бесперапынна заходзіў хтосьці або выходзіў, раз за разам азываўся тэлефон. Найсапраўднейшы манеж.

— Падпішыцеся тут, і тут, і яшчэ тут, — тонкі, амаль па-жаночаму далікатны палец паказаў месца, дзе трэба паставіць аўтограф.

— Паліто — штук адзін. Дыпламат — штук адзін. Шнуроўкі — штук два. Грошы — злотаў адзін, грошаў сорак пяць. Згаджаецца? І яшчэ рахунак. Згаджаецца ўсё, можа толькі паліто — у рэзультаце сустрэчы з гарадскім тратуарам — патрапціла свой беззаганны, належны дырэктарскай вопратцы фасон, усё ж такі дамагацца, каб вярнулі вам гардэроб у някранутай форме — няма сэнсу. Тутака не пральня, а зусім другая ўстанова. Бяры тады, Толік, што табе даюць і маршыруй дамоў, туды, дзе жонка прагульваецца з кутка ў куток, раз за разам нервова спаглядаючы на гадзіннік. А даўно ёй трэба быць на фабрыцы.

Раніца прывітала нашага дырэктара халоднымі, марознымі воплескамі. Асцярожна, каб не пакаўзнуцца, спусціўся па лесвіцы, прайшоў побач помніка ўсім міліцыянтам і паліцыянтам і, мінуўшы скрыжаванне, накіраваўся на вуліцу Баторыя. Туды, дзе з-за ліпавых прысадаў белымі, не так даўно аднаўленымі тынкамі яснее знаёмы блёк. Мінаючы нешматлікіх прахожых, мімавольна апускаў галаву, глядзеў у другі бок, у тратуар. Здавалася чамусьці, што ўсе напатканыя людзі, калі не ведаюць, дык прынамсі здагадваюцца пра ягоную ганьбу і, адышоўшы крок ці два, іранічна ўсміхаюцца, цешацца ў думках чужой бядзе, а потым, ужо ў цёплых кватэрах расказваюць жонкам, як гэта такі а такі дырэктар брыў раніцою з камісарыята паліцыі непаголены, брудны і зморany. І тыцкаюць пад жончыны насы свае бліскучыя, пульхныя шчокі, каб не было ніякіх сумненняў, хто тут чалавек прыстойны, а хто апошні маральны анучнік.

Так вось ішоў Толік бы маладая паненка, калі пасля ўсяночнай гульні, пасля вясёлых хіхаў і хахаў, неадкладна давodзіцца ступаць супроць чорнай рэчаіснасці. І з кожным крокам курчыцца весялосць, а самаўпэўненасць — з вечара неабмежаваная — цяпер ператвараецца ў вялікае сумненне: што будзе далей, што мама скажа.

Пра сустрэчу з маці наш дырэктар напэўна не думаў — яна ж даўно між анёлаў ужо і зрэдку толькі наглядае за сыноўскімі поспехамі. Ён думаў пра сустрэчу з жонкай.

Уцякаючы ад лістападаўскага холаду, дырэктарская рука напаролася на штосьці незнаёмае. Там, у цёплай глыбіні кішэні, як доказ прамантачанаму дзявоцтву, спачываў рахунак за гасцініцу. Думка, што гэты непрыкметны шматок паперы паглыне трэцюю частку жончынай выплаты, цяжкім, свінцовым холадам паплыла ў ногі. Як жа хацелася, каб дарога дамоў расцягнулася ў бясконцасць, каб так было, што чалавеку нікуды не трэба вяртацца, а толькі ісці ды ісці, без патрэбы, без мэты.

Недарэчнае жаданне. Даўно абмералі нашу зямлю, а кожны яе лапік, сантыметр за сантыметрам запісалі ў адпаведных кнігах бяздушныя бухгалтары прасторы.

Ступай тады, Толік, на сваю галгофу. Альтэрнатывы няма.

***(заканчэнне будзе)***

**Міхась Анадрасюк**



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Язэп Пушча

### Бальзам жывой вады

З тваіх крыніц я піў бальзам
жывой вады
І падбіраў тады да песень
новыя лады.

У народзе іх падслухаў сэрцам
і душой,
І радасць вобразаў нязвыклых
ў іх знайшоў.

Радзіма, голас твой мяне
спяваць вучыў,
І ты мне аддала ад родных слоў
ключы.

Прысадамі жыцця я іх у свет панёс,
Не ведаю, які мой будзе з імі лёс.

У маёй душы пераклікаюцца яны
Чароўнай казкаю і сонца, і вясны.


*У Белавежскай пушчы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Парадак майго жыцця памяняўся

**На журналісцкіх варштатах у Старыне, арганізаваных згуртаваненм „Polis", я пазнаёміўся з Аняй ІВАНОЎСКАЙ. 18-цігадовая Аня была б звычайнай дзяўчынай..., калі б не факт, што яна пляменніца Вацлава Іваноўскага.**

***— Тваё прозвішча гучыць знаёма кожнаму светламу беларусу. Ці ёсць у цябе сувязі з Беларуссю?***

— Мой стрыечны прадзед гэта Вацлаў Іваноўскі. На жаль, ведаю пра яго мала, таму што даведалася пра гэту постаць усяго тры тыдні назад. Проста ў хаце не закраналі гэтай тэмы, хаця не скажу, што затойвалі яе перада мною. Думаю цяпер, што ўсё ж маглі б і раней мне нешта расказаць. З другога боку — калі і гаварылі пра Вацлава Іваноўскага, я не адводзіла гэтаму асаблівай увагі.

***— Ці не здзівіў цябе факт, што бацькі сказалі табе так позна пра стрыя?***

— Перад паездкай у Старыну я сказала, што на варштатах будуць беларусы. І тады мой тата сказаў мне, што стрый лічыў сябе беларусам. Затым згадаў пра яго дзейнасць.

***— Як падзейнічала на цябе вестка, што твой продак ствараў гісторыю?***

— Я перапужалася! Гэта бударажыла мяне. У мяне было сваё жыццё і раптам я ўсведаміла, што яго парадак мяняецца. У маёй галаве ўзнікла пытанне, яно не дае мне спакою да гэтай пары. Я баялася, не ведала, ці сапраўды мне трэба ведаць — хто я.

***— Ці свядомасць беларускіх каранёў памяняе твае адносіны да Беларусі і яе жыхароў?***


*Аня Іваноўская і Міхась Сцепанюк.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

— Доўгі час я не мела зусім сувязі з Беларуссю. Нехта час ад часу гаварыў пра дрэнныя рэчы, якія там дзеюцца. Я нават зашмат не ведала пра тую краіну. Зараз адчуваю, што мае пачуцці мяняюцца. Я думаю, што буду спазнаваць свае карані, інакш не знайду спакою. Тады ўсё будзе мець свой сэнс.

***— Ці будзеш дэталёва знаёміцца з асобай Вацлава Іваноўскага?***

— Напэўна так. Калі такога не зраблю, не спазнаю спакою.

***— Ці ведаеш нейкія публікацыі пра тваю сям'ю?***

— Пра нашу сям'ю ёсць шмат кніжак. У маім пакоі знаходзіцца паліца застаўленая кніжкамі і сямейнымі дакументамі.

***— Чым зараз займаешся?***

— Я перайшла ў чацвёрты клас Прыватнага агульнаадукацыйнага ліцэя Ордэна С. С. Прасвятога Сямейства з Назарэта. Гэта жаночая школа.

***— Ці ў тваёй школе абавязвае форма?***

— Мы ходзім у школьных фартушках. Апрача гэтага, маем святочную вопратку, г.зв. „галюўку". Яна складаецца з чорнай спадніцы да паўлыткі, белай блузкі з чорным каўнярам і з назарэтанскім крыжом.

***— Якія ў цябе зацікаўленні?***

— Я цікаўлюся псіхалогіяй. Цікавіць мяне таксама яўрэйская тэма. Я мела многа кантактаў з самімі яўрэямі. Дарэчы, дзякуючы „Polis" я мела да гэтага доступ. Нядаўна мы ўдзельнічалі ў Маршы жывых.

***— Што робіш у „Polis"?***

— Ужо трэці год удзельнічаю ў варштатах. Зараз я лідэр групы, якая вядзе журналісцкія заняткі для пачатковых школ. Пішу таксама многа ў „Polis". Цяпер працую над артыкулам пра яўрэяў. Паказваю як успрымаюць іх палякі, якія тут міфы і стэрэатыпы.

***— Жадаю поспехаў!***

**Гутарыў Міхась СЦЕПАНЮК**

**Вацлаў Іваноўскі** нарадзіўся 7 чэрвеня 1880 г. у фальварку Лябёдка Шчучынскага раёна ў дваранскай сям'і. Палітычны і грамадскі дзеяч. Доктар тэхналагічных навук (1909 г.). Закончыў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут (1904 г.). Да 1913 г. на навуковай і выкладчыцкай рабоце ў Пецярбургу. Адзін з заснавальнікаў Круга беларускай народнай прасветы і культуры, Беларускай сацыялістычнай грамады. У 1906-1914 г.г. кіраваў дзейнасцю выдавецтва „Загляне сонца і ў наша аконца". Супрацоўнічаў з газетай „Наша доля" і „Наша ніва" (псеўданім Вацюк Тройца). У 1913-1915 гадах у Вільні працаваў у Сельскагаспадарчым таварыстве, узначальваў Беларускае выдавецкае таварыства. У час першай сусветнай вайны адзін з заснавальнікаў Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. У 1918 г. міністр асветы ва ўрадзе Беларускай Народнай Рэспублікі, выкладаў у Мінскім настаўніцкім інстытуце. У пачатку 1919 г. загадчык аддзела Мінскага губернскага камісарыята асветы Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, у маі арыштаваны савецкімі ўладамі і інтэрнаваны ў Смаленск. У час польскай акупацыі (з восені 1919 г.) член Часовага беларускага нацыянальнага камітэта, член прэзідыума Цэнтральнай беларускай школьнай рады, выдавец часопіса „Рунь", з сакавіка 1920 г. рэктар Мінскага беларускага педагагічнага інстытута. У 1920 г. уваходзіў у склад урада Сярэдняй Літвы. У 1922-1939 гадах прафесар Варшаўскага політэхнічнага інстытута, з восені 1939 г. выкладаў у Віленскім універсітэце. У 1942 г. прызначаны нямецкімі акупацыйнымі ўладамі на пасаду бурмістра Мінска. У 1943 г. фактычна ўзначальваў Раду даверу пры Генеральным камісарыяце Беларусі, старшыня Беларускага навуковага таварыства. Трымаў сувязь з польскім антыфашысцкім падполлем, з прадстаўнікамі Арміі Краёвай. Забіты ў выніку тэрарыстычнага акта 7 снежня 1943 г.

*Беларусь — энцыклапедычны даведнік*

# Лянота

**Частка 6**

Убег Алік у сваю кватэру, бачыць — у пакоях святло гарыць, маці на кухні бульбу чысціць. Дрымоты ўяе, як і не было.

— Дзе ты гуляеш? — пытаецца яна ў Аліка. — Ты ж, мусіць, есці хочаш?

— Ага, — адказаў Алік, глытаючы сліну.

— Пачакай, зараз бульбянога супу навару.

— А я, — сказаў Алік, — па хлеб збегаю.

Бацька прыадчыніў дзверы са сталовай, сказаў да Аліка:

— Купі там у кіёску мне свежую газету.

— Добра, — адказаў Алік і бягом кінуўся ў хлебны магазін.

Бацька ўсміхнуўся:

— Нешта з Алікам сёння сталася. Сам ахвотна па хлеб пабег.

— Расце хлопец, — сказала маці, — разумнее.

— І праўда, — згадзіўся бацька. — Але нешта мне вельмі ж есці захацелася. Давай памагу бульбу чысціць.

Пакуль Алік вярнуўся з хлебам, на газавай пліце ўжо булькатала немаленькая каструля свежага бульбянога супу, а ў алюмініевай патэльні з шумам смажылася цыбуля на масле. Ад яе ішоў такі пах, што Алік ледзь не расчыхаўся.

— Давай, мама, — сказаў ён, — памагу пасуду мыць, стол накрываць. Хутчэй будзе.

— Добра, сынок. Памагай.

І яны ўдваіх пачалі рыхтавацца да вячэры.

А пра сваю сястрыцу Ляноту Алік так і не сказаў бацькам ні слова.

**Алесь Якімовіч**

## Вершы Віктара Шведа

### Чаму мне сон не паказала?

Расказвае матуля доні
Свой сон такі прыгожы,
Які убачыла сягоння,
Што надта заваражыў.

Раптоўна так засумавала
Маленькая дачуся.
— Скажы, чаму не паказала
Мне гэты сон, мамуся?

### Вячэрняя школа

Запыталіся Міколу:
— Скажы, ці вашая школа
Заўжды халодную такою?
— Не, толькі зімою.

Скажы, чаму у кожным класе
У вас цемра завялася,
Як можа вучыцца тут моладзь?
— Гэта ж вячэрняя школа.



*У рытме беларускага рэгэ. Другая справа Аня Садоўская.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Дыск-сустрэча з інфарматыкай

Пачалося ад першага класа беларускага ліцэя. Гайнаўка, вядома, усё ж — горад. І я са свядомасцю свае беларускасці захацела вучыцца тут.

Не было кепска. Найгоршае пачалося на занятках тэхнікі і інфарматыкі. Уваходзіў Ён — вялікі, суровы настаўнік. Некаторым гэта не перашкаджала, а нават дапамагала вучыцца. У маіх сяброў пасыпаліся пяцёркі. А што ж у мяне? Ахвяра свайго ўласнага лёсу! Ад пачатку было вядома, што мне да пяцёрак во як далёка!.. Калі Ён адчыняе дзённік, у класе мёртвая цішыня (урокі праводзяцца ў склепе). Бачыце ў сваім уяўленні тое?!

Ну, што ж, жылося мне са свядомасцю, што я не буду добрай з інфарматыкі. Суцяшала мяне толькі тое, што былі яшчэ горшыя за мяне... І так, пад канец школьнага года я даведалася, што тэхніка спалучаецца з інфарматыкай і будзе ставіцца адна ацэнка! На маім твары зайграла сонца, ды зараз знікла, бо сяброўка сказала, што ў другім класе якраз Ён будзе вучыць нас інфарматыцы!

Я ў сваёй першапачатковай наіўнасці проста не паверыла сяброўцы. Распыталася ў іншых. Так! Увесь другі год па дзве гадзіны трэба будзе сядзець з Ім у адным класе сярод праграмаў ды дыскет!

Каб больш не глядзець на майго прафесара на заканчэнне школьнага года (замест быць у школе) я паехала на экскурсію ў Беларусь. Ды ўсё лета мяне падсцерагала думка пра сустрэчу з інфарматыкай.

Ну так. Пачатак года. Першы дзень тыдня — панядзелак, значыцца. Пяты і шосты ўрок — інфарматыка. Кожны перажывае, дык і я стараюся. Нялёгка. Першы кантрольны — двойка. Калі хацела паправіць ацэнку, папсаваўся камп'ютэр. За другі кантрольны я атрымала 2+. Пазычыла ад сяброўкі дыскету і пайшла да знаёмай павучыцца. Дасюль не ведаю, каторая з нас сцерла тую дыскету! Хопіць сказаць, што мы ледзь уключылі камп'ютэр... Падсцерагла мяне мая адвечная сяброўка — няўдача. Ну, што ж зробіш, інфарматыка — не мая будучыня!..

Ведаеце, Юльюш Славацкі меў на матуры з матэматыкі 2! То і мне, хоць яшчэ і не на матуры, не грэх мець тую двойку з інфарматыкі. Праўда ці не? Было не было, Славацкі ж...

**Аня Садоўская**

PS. Прафесар аказаўся быць цудоўным чалавекам. Цяпер ведаю, што толькі ад мяне залежаць мае ацэнкі. А з інфарматыкі дарабілася я ўжо тройкі!

# Як ліска мядзведзя са свету звяла

***(беларуская народная казка)***

Была сабе лісачка са сваімі дзецьмі. Як сталі тыя дзеці падрастаць, так яна збудавала ім хатку. Пажылі яны там трохі, так яна кажа дзеткам:

— Вы сядзеце ў хаце, нікога не ўпускайце, а я пайду па травіцу.

Як толькі яна выйшла, дык воўк пад дзверы і давай спяваць:

— Лісяняткі мае, адчыніце мне, бо я ваша родна матка; поўны цыцы малачыцы, поўны вушы расіцы, поўны бокі травіцы.

Лісяняткі ўслухаліся і давай гаварыць між сабой:

— Гэта не наша маці. Не ўпусцім! — і не адчынілі.

А воўк пачакаў трохі і пайшоў у лес. Ажно неўзабаве прыходзіць ліска, іх маці, стала пад дзвярыма і спявае:

— Лісяняткі мае, адчыніце мне, бо я ваша родна матка; поўны цыцы малачыцы, поўны вушы расіцы, поўны бокі травіцы.

Адчынілі яны лісе, яна іх накарміла і зноў сама пайшла.

— Адно, — кажа, — нікагусенька не ўпускайце, дзеткі, у хатку.

Як ліска выйшла, то мядзведзь падышоў пад дзверы і давай спяваць:

— Лісяняткі мае, адчыніце мне, бо я ваша родна матка, поўны цыцы малачыцы, поўны вушы расіцы, поўны бокі травіцы.

Яны, не ўслухаўшыся добра, думалі, што гэта іх маці, так і ўпусцілі. А мядзведзь сеў сабе на лаўцы ды кажа ім:

— Я вас з'ем!

Лісяняткі пачалі прасіцца:

— Ах, дзядзечка, не еш нас!

Мядзведзь іх пашкадаваў і не еў. Ажно прыходзіць іх маці, яны як пачулі, што яна ідзе, выбеглі насустрач і ўсё расказалі.

Пайшла ліска на гарохавішча і назбірала поўны мяшок гароху. Потым прыйшла пад хатку і давай тым гарохам па сценах сыпаць, а лісяняткі гавораць мядзведзю:

— Дзядзечка, чуеш, якая тут вайна на нас ідзе? Як шрот каля нашай хаты ляціць? Дзе мы падзенемся?

А мядзведзь кажа:

— Вы то вы, але я?

Аж бачыць — ляжыць ядловец каля печкі. Мядзведзь кажа малым:

— Я ўлезу ў печку, а вы мяне тым ядлоўцам запхайце.

Ён улез у печку, яны запхалі дый пабеглі матцы сказалі. Ліса зараз убегла ў хатку і ўзяла той ядловец запаліла: той ядловец трашчыць, а мядзведзь крычыць. Як мядзведзь згарэў, узяла ліса той попел на заслонку, вынесла на двор і высыпала, а сама пайшла дахаткі, жыла, пажывала, дзяцей пагадавала і ў свет павыпраўляла.

# Помнік каралю-дабрадзею

8 жніўня г.г. у час святкаванняў III Дзён Кляшчэляў адбылося адкрыццё помніка каралю Зыгмунту I Старому.

— Кароль хацеў дабра для горада, то і караля трэба ўшанаваць, — гаварыў старшыня Камітэта пабудовы помніка Юзэф Дрангоўскі. — Кляшчэлі старэйшыя ж за Гайнаўку ці Беласток.

Горадам Кляшчэлі сталі ўжо ў 1523 годзе, калі Зыгмунт I Стары быў каралём Польшчы. Другі раз гарадскія правы атрымалі ў 1993 годзе, а ідэя будовы помніка каралю Зыгмунту ўзнікла тры гады таму. Завязаўся тады камітэт пабудовы помніка.

— Найбольш дапамаглі бурмістр Аляксандр Сяліцкі і прадпрыемства „Баўма" з Дабрывады. Былі ўзносы ад іншых прадпрыемстваў і прыватных асоб не толькі з Кляшчэлеўскай гміны, — тлумачыў Юзэф Дрангоўскі. — Мы не думалі, што будзе столькі фінансавых і арганізацыйных складанасцей.

Адкрыццё помніка запланавана было на апошні дзень кляшчэлеўскіх святкаванняў. Пачаліся яны ў суботу 31 ліпеня дзіцячымі і маладзёжнымі гульнямі ды конкурсамі. Для дзяцей і дарослых іграў сямейны калектыў „Манаграм". У нядзелю 1 жніўня адбыўся I Каралеўскі турнір па валейболу, у якім перамаглі госці з Чаромхі, хаця гонар горада абаранялі тры каманды з Кляшчэляў. У футбольных змаганнях перамагла мясцовая каманда. Пасля абеду жыхары Кляшчэляў прыйшлі на беларускі фэст, арганізаваны разам з БГКТ, у час якога выступалі між іншым спевакі з Дашоў, Дабрывады, школьнікі з Чаромхі, Кляшчэляў ды госці з Беларусі: „Медуніца" і „Вяселле" з Ваўкавыска. А пасля адбылася танцавальная вечарына з феерверкамі.



*Бурмістр Аляксандр Сяліцкі на фоне помніка Зыгмунту I Старому.*

Апошні дзень святкаванняў у Кляшчэлях распачаўся ад сустрэчы Таварыства сяброў Кляшчэлеўскай зямлі. Затым жыхары Кляшчэляў пачалі збірацца каля помніка Зыгмунту I. Прыйшлі пажарнікі і гарцэры, іграў маладзёжны духавы аркестр з Ясяноўкі, бурмістр вітаў гасцей, у тым ліку, намесніка консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Паўла Латушку, пасла Сяргея Плеву, намесніка ваяводы Юзэфа Кліма і намесніка маршалка Ваяводскага сейміка Аляксандра Усакевіча. Калі бурмістр разам з прадстаўнікамі ваяводскіх улад рыхтаваўся адкрываць помнік, Кляшчэлі прыкрылі чорныя хмары. Ужо ў час дажджу адбылося асвячэнне помніка і калі запрошаныя госці ўскладвалі кветкі, людзі хаваліся ў школу і спартыўную залу. А на двары штораз мацней бушавала бура. Вельмі моцны вецер ламаў голле і збіваў з ног людзей. Хаця прапала электрычнасць, арганізатары не разгубіліся і наладзілі ў спартыўнай зале выступленні духовага аркестра і ілюзіяніста.

Жыхары Кляшчэляў заўважалі, што такой буры не было ўжо даўно. Пажарнікі, якія раней дастойна выступалі ў час урачыстасці, цяпер прыводзілі ў парадак непраезную дарогу ў Гайнаўку.

Бурмістр Аляксандр Сяліцкі коратка расказаў пра значэнне статусу мястэчка:

— Кляшчэлі, як горад, сталі больш прэстыжным месцам для інвестараў, лягчэй прыцягнуць капітал. Два мерапрыемствы „Польдрэў" і „Дрэўэксполь" прыцягнулі капітал звонку і далі працу для больш чым 400 асоб. Цяпер у будынку былой „Бэтэскі" чарговы прадпрымальнік думае выпускаць прадукцыю.

Жыхары Кляшчэляў закончылі святкаванні з надзеяй, што помнік Зыгмунту I стане сімвалам развіцця горада.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Дзень поўны ўражанняў

Экскурсія — цудоўная справа. Чалавек не толькі зможа паглядзець кавалак свету, але і многаму навучыцца. Калі мне рэкамендавалі экскурсію на Вармію і Мазуры, я спачатку не згадзіўся, але аргументы старшыні Чаромхаўскага праўлення Саюза пенсіянераў Юзэфа Дубковіча мяне пераканалі:

— Аўтобус бясплатны. Усяго 9 зл. прыйдзецца заплаціць за ўступныя білеты. Ці гэта грошы? А ты ў „Ніву" напішаш..., — тлумачыў мне.

Маршрут экскурсіі пралягаў праз Бельск, Ломжу, Шчытна, Ольштын. Адтуль мелі мы паехаць у Святую Ліпку і канчатковым спыніцца ў Кентшыне, а дакладней кажучы, у Гярложы, былой штаб-кватэры Гітлера.

З Чаромхі 38 экскурсантаў выехала а палове шостай раніцы. Каб „разварушыць" кампанію, Янка Кубіцкі пачаў расказваць пра Чаромхаўскую гміну (ён — радны), пра яе дасягненні і праблемы.

Праз гадзіну мы былі ў Ломжы. Калі праязджалі вуліцамі горада, Кубіцкі загаварыў:

— Адсюль родам выводзіцца наша настаўніца Яніна Скок і акцёрка Ганка Бяліцкая... І былы ваяводскі камендант пажарнікаў Часноўскі тут жыве і працуе. Ён з Чаромхі, зямляк наш, — удакладніў.

— Значыцца, мы сярод сваіх знаходзімся, — жартуе Кубіцкі.

Спаглядаю праз акно аўтобуса. Цудоўна зарысаваўся скансэн над ракой Нарвай у Навагродзе. І рыначак ў Мышынцы здаецца быць знаёмы, падобны на чаромхаўскі. Такія ж невялічкія хаткі, як на Гайнаўшчыне... І аграмадныя нівы збожжа.

Уязджаем на тэрыторыю былой Усходняй Прусіі. Невялічкая мясціна Альшаны (восем кіламетраў ад Шчытна). Старыя мураваныя будынкі, пакрытыя чырвонай чарапіцай. Заваленыя дахі. Відаць, і тут рынкавая эканоміка пакінула свой след.

У прыдарожным лесе прасекі ў маладняку і кучкі дроў акуратна складзеных. „Рыхтуюць апал на зіму, — мільганула мне думка. — Так як мы гэта робім".

Шчытна прывітала нас змрочным краявідам. Апусцелы прыдарожны парк, ціхі тартак (ці мо драўнінны склад), высокі шэры комін нейкага камбіната.

Аўтобус раптоўна прытармазіў. Спаглядаем у вокны. Перад намі выстраілася чарга аўтамабіляў, якія па адным прапускае паліцэйскі. Далей відаць грузавы аўтамабіль „Стар" каля зламанай бярозы, а ў нізе — перакулены прычэп. Звычайная дарожная аварыя.

Са Шчытна ў Ольштын застаецца 46 км. Тут назначана наведанне планетарыя. Гэты адрэзак дарогі праязджаем за няпоўную гадзіну. У запасе маем крыху вольнага часу. Выкарыстоўваем яго на справункі.

Сеанс у планетарыі пачаўся з невялікім спазненнем. Гаснуць ляпмы, здаецца, вечарэе. Чуецца голас дыктара: „Сонца заходзіць. Ноч будзе пагодлівая". Перад вачыма рысуецца чароўны вобраз неба, засеенага мільёнамі зорак, сярод якіх плыве Месяц. Наша галактыка. Што яна сабой прадстаўляе? Якія таямніцы скрываюць планеты? Ці жывуць марсіяне? Што гэта такое дождж метэарытаў?..

На гэтыя і шмат іншых пытанняў знайшлі гледачы адказ у час сеанса. А ў прасторных калідорах можна было агледзець метэарыты і публікацыі на іх тэму.

З Ольштына накіроўваемся ў Святую Ліпку. Едзем дарогай на Сувалкі. Пасля паўгадзіннай язды спыняемся ў лесе. Непадалёк — міні-бар.

Экскурсавода ў Святой Ліпцы не трэба было доўга шукаць. Вырас перад намі быццам грыб пасля дажджу.

Уваходзім у касцёл. Непаўторнае відовішча. Усё зіхаціць. Столь размаляваная рознакаляровымі фарбамі. Абразы быццам жывыя. Такое ж уяўленне выклікаюць фігуры святых, якія рухаюцца, калі іграюць славутыя арганы 1791 года. Рэзбленыя фігуры двухметровай вышыні прадстаўляюць апосталаў, а малюнкі пад столлю — шлях Хрыстовы. Многія гады арганамі не карысталіся. Толькі ў 1970 годзе езуіт Вальдэмар Чыжэўскі іх адрамантаваў. Зараз імі не карыстаюцца ў час багаслужэнняў, толькі ў час шлюбных цырымоній іграюць на іх марш Мендэльсона.

Пакідаем Святую Ліпку каля 17-й гадзіны і пераязджаем у Гярложу — кватэру Гітлера. Тое, што я раней чытаў у кніжках пра „Воўчы шанец", зараз маю магчымасць угледзець навочна.

250 гектараў лясной плошчы. Аэрадром, некалькі тысяч людзей і будоўлі амаль невялікага горада скрываліся пад зямлёй і маскіровачнымі сеткамі. Сцены крэпасці мелі таўшчыню да трох метраў. З аграмадных будынін засталіся руіны параслыя маладой бярэзінай ды соснамі. Толькі памяць пра гэтае страшнае месца навечна засталася жывая ў народзе.

Гярложу пакідаем поўныя ўражанняў. Каб паказаць нам крыху больш маляўнічай ваколіцы, нашы экскурсаводы (Янка Кубіцкі з шафёрам) надумалі вяртацца па іншаму маршруту — праз Гіжыцка, Ожыш і Пiш.

У Чаромху вярнуліся мы пасля поўначы. Праехалі больш 600 кіламетраў. Фізічна стомленыя, ледзь валаклі мы ўжо ногі, але духова трымаліся ў бадзёрым настроі. Усю дарогу чуваць былі песні. І ніхто не драмаў, хоць шэры змрок даўно ахутаў зямлю. Вясёлая кампанія, знаёмства з чароўным краявідам Вармінска-Мазурскай зямлі застануцца напэўна ў памяці чаромхаўскіх пенсіянераў. Варта было паехаць на экскурсію! Гэта сапраўды быў дзень поўны ўражанняў.

**Уладзімір Сідарук**

# Гарадскі фэст

1 жніўня 1999 г. Гайнаўскі аддзел БГКТ разам з Гайнаўскім домам культуры арганізавалі ў гарадскім амфітэатры беларускі фэст з удзелам гасцей з Беларусі.

Гайнаўяне, якія ў сонечную нядзелю сабраліся ў гарадскім парку, выслухалі песню „Мой беларускі край". Затым на сцэну выйшаў старшыня Аддзела БГКТ Міхал Голуб. Прывітаў ён гасцей з-за мяжы, прадстаўнікоў раённых улад з Камянца, гайнаўскага старасту Уладзіміра Пятрочука і бурмістра Анатоля Ахрыцюка. Ад імя гасцей прывітанне з Беларусі перадала старшыня Раённага савета дэпутатаў з Камянца Ніна Стасюк, а бурмістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк афіцыйна адкрыў мерапрыемства. Настаўнік беларускай мовы з Гайнаўскага белліцэя Ян Карчэўскі і вучаніца Аня Паўлючук узялі справы ў свае рукі і пачалі запрашаць калектывы на сцэну. Выступілі калектыў ГДК, „Цаглінкі" з Ляўкова, „Чыжавяне", бельская „Васілёчкі", а апошнім выйшаў калектыў з Брэста „Сузор'е", які апрача спеву паказаў і народныя танцы. Прыхільнікі беларускай фэставай музыкі разыходзіліся задаволенымі, што была чарговая нагода паслухаць свае песні.



*Першымі выступілі спевакі Гайнаўскага дома культуры.* Фота Аляксея МАРОЗА

— Мерапрыемства лічу ўдалым, бо былі спонсары, добрае надвор'е і многа публікі. Ужо цяпер гайнавяне хочуць, каб арганізаваць чарговы фэст у квартале „Падляшша", але гэта ў многім залежыць ад спонсараў, — кажа адзін з арганізатараў Міхал Голуб. — І таму карыстаючыся нагодай дзякую самаўрадам павета і горада Гайнаўкі, страхавым прадпрыемствам PZU, рэстарану „Белая ружа" і кааператыву „Рольмак", якія фінансава ўспамаглі мерапрыемства.

**(ам-з)**

# У бядзе няма страху

— Найперш быў знак. На дварэ стаяў кастрычнік сорак другога года. Якраз выпала свята. Мы з бабуляй вярнуліся з царквы, — прыгадвае Марыся Младзяноўская са Старыны. — Усёй сям'ёй заселі абедаць. І раптам у акно ўдарыла птушка. Тры разы ўдарыла. Бабуля як елі, так лыжка ім з рук упала. *Ужо ўсё, нас ужо няма!* — прамовіла яна. Ведала, што калі птушка тройчы ўдарыць у акно — набліжаецца смерць.

**Даносчык выдаў нашу сям'ю**

Мама пачала плакаць. Бабуля яшчэ адвячоркам выбралася з хаты. Пайшла яна да другой дачкі, што жыла за лесам, у Вольцы. Быў чацвер, адзінаццатая вечара.

— Мы леглі спаць, — Марыся Младзяноўская добра памятае ліхую гадзіну. — Найперш лёгка пастукалі ў акно, пазней учыніўся вэрхал. Загадалі адкрываць дзверы. Мама ўбачыла, што ўвесь дом акружаны немцамі. — Otwieraj! Gdzie mąż? — крычаў нямецкі перакладчык.

Бацькі не было з намі. Здаўна хаваўся ад немца. Бо раней у наш дом прыходзілі з лесу партызаны. І мы дапамагалі ім, давалі хлеб, бульбу. Але сярод партызанаў быў нямецкі даносчык. Ён выдаў нашу сям'ю.

**І не маглі нават плакаць**

— Але ж усё роўна Бог ёсць на свеце, — кажа Марыся Младзяноўская.

Добра памятае як фашысты ўвараліся ў хату. Як сталі катаваць маму, дзеда-старэчу, як білі брата — пятнаццацігадовага Колю.

— У мамы на руках была Надзя, наша наймалодшая сястрычка. Дзевяць месяцаў малечы было. То адзін адкрунуў маме руку, адарваў Надзю і шпурнуў яе ў мой бок, — плача мая субяседніца. Памятае, як з Надзяй і сямігадовай Нінкай сядзелі на ложку ды, атрупянелыя ад жаху, не маглі нават плакаць. Глядзелі, як фашысты збіваюць іх родных. Надзя толькі моцна прытулілася да Марысі. Быццам ведала, што нельга крычаць у ліхую гадзіну.

**Да рання сядзелі на ложку**

У тую ноч падстрэлілі бацьку Марысі Младзяноўскай. Злавілі яго на ўласным панадворку. Усю радню: маму, брата, падстрэленага бацьку, дзядулю ды швагра з жонкай пагналі да солтыса. Пазней увапхнулі ў машыну і ад'ехалі. Доўга ў вушах Марысі звінеў варожы гул той машыны.

— Мы, дзеці, — успамінае яна, сёння сямідзесяцігадовая пенсіянерка, — да рання сядзелі на ложку. Памятаю як сёння: хата адкрытая, халадэча, каровы равуць, а мы плачам, слязьмі заліваемся. Яшчэ і тыя немцы ля дому хадзілі, *гергаталі*. Думалі, што партызаны прыйдуць.

**Хацела толькі пабачыць маму**

Раніцай Марыся Младзяноўская дайшла да сябе. Куды ісці? Што рабіць? — думала. Рашыла пабегчы на Новую Старыну. Там жыла яе цёця Олька. Жанчына перажыла таксама жудасную ноч. Немцы забралі яе мужа ды разам з бацькамі Марысі пагналі ў палон. А яе з немаўляткам пакінулі.

— Зараз да вас прыйду, кароў падоім. То малака хаця нап'яецеся, Надзю пакорміце, — суцешыла сваячніца.

Пад вечар прыйшоў солтыс. Падказаў, што бацькі жывыя, што іх у Кляшчэлі ў астрог павезлі.

— На другі дзень цёця Олька запрэгла мне каня і я сама ў Кляшчэлі паехала, — кажа мая субяседніца.

Першы раз ехала Марыся Младзяноўская ў Кляшчэлі. Ці баялася? Не ведае. Хацела толькі пабачыць маму.

**Чалавек добры настроіў**

У Кляшчэлях паставіла каня ды пайшла да першай любой хаты.

— Ці ёсць тут у вас арышт? — папытала сустрэтага мужчыну Марыся, тады трынаццацігадовая дзяўчынка.

— Ёсць!

— А ці ноччу якіх не прывезлі?

— Прывезлі, дзіцятка, прывезлі. Цэлую машыну. Адзін чалавек ранены быў.

— То нашы тата будуць, — заплакала Марыся.

І чалавек паказаў ёй арышт. Параіў што рабіць, што гаварыць.

— Толькі глядзі, не кажы што я табе настроіў, — агаварыўся добры дзядзька.

У ваенныя гады людзі за добрае слова гінулі. Нават за дапамогу адчайнаму дзіцяці.

**Немец пашкадаваў яе**

— Мама, мама, — пачала па-дзіцячы прызываць Марыся сваю матулю. Нейкая ўнутраная сіла паказала ёй пастукаць у забітае дошкамі акно астрога. Маці пачула словы дачкі. І загаласіла: *Ах, Манечка! Адкуль жа ты дзіцятка тут, роднае?*

— Мама, калі дадому прыйдзеце? — плакала Марыся. — Калі дадому...

Пасля пайшла гаварыць з жандарамі. Немец прызваў перакладчыка. Той распытаў пра ўсё Марысю.

— A ile tobie lat? — папытаў яе ў канцы.

— Я і сама не ведаю, — змяніла дзяўчынка, ды пачала плакаць.

Немец пашкадаваў яе. Загадаў ісці следам у турму.

— А навокал сабакі брэшуць, разарваць гатовы, яшчэ і сёння той страшны час стаіць у вачах Марысі Младзяноўскай. Памятае, як пабачыла ў камеры свайго бацьку.

— На матрацы, дзе ён ляжаў было многа крыві. Як тата глянулі на мяне, а я на яго, мы пачалі плакаць. Хутка той немец рвануў мяне за руку і павёў да мамы.

Марыся Младзяноўская не здолела ўтаймаваць слёз. Яе маці стаяла ў падзёртай, акрываўленай сарочцы. Голая, босая, галодная. Яна таксама плакала.

— Мама, калі дахаты прыйдзеце, — паўтарала па-дзіцячы Марыся. — Надзя цыцкі хоча.

Дзевяцімесячную сястрычку да апошняга дня грудзьмі маці карміла.

**Дзе рады шукаць?**

Бабуля вярнулася на вечар у суботу. Адсвяткавалі нядзелю. Раніцай, у панядзелак, напякла яна хлеба, натаўкла бульбы, напарыла малака, падрыхтавала вопратку і адправіла Марысю ў Кляшчэлі.

Але там ужо не было іх радні. Ноччу вывезлі іх з мястэчка.

— Я была адважная. Ды і думала: *Як пабілі маму і тата, то хай мяне заб'юць*, — кажа Марыся Младзяноўская.

Пайшла яшчэ раз да жандараў папытаць пра бацькоў.

— Яны жывыя. Іх у Высокае вывезлі, — зноў пашкадаваў Марысю немец.

А як вярнулася ў Старыну і ўсё бабулі сваёй расказала, старэча рукі заламала. Да поўначы думалі, гадалі. Дзе ім, няшчасным, рады шукаць, куды прытуліцца?

**Страх толькі ў роскашы ведаюць**

Была першая гадзіна ночы. Бабуля перахрысціла Марысю на дарогу, *пацэр* згаварыла.

— І я лесам, пушчай, пайшла ў Вольку, што каля Чаромхі. Да сваякоў дапамогі прасіць. Марыся Младзяноўская не памятае страху.

— Няма страху ў бядзе, — кажа мудрая кабета. — Страх толькі ў роскашы ведаюць.

Сваім візітам напалохала сваякоў. Ад хвалявання ў дзядзькі трэсліся рукі.

У канцылярыі сустрэла яна дзіўнага немца.

— У яго ўсе грудзі ў медалях былі. Ён *пагергатаў, пагеркатаў* і павёў мяне да бацькоў, — успамінае.

Марыся Младзяноўская найперш бацьку пабачыла. Пасля паклікалі цёцю і маму.



Ён хацеў запаліць газоўку, але тая аб зямлю бразнула, пажар учыніўся. Добра што затушылі агонь раз-раз.

Раніцай рыхтаваліся ў дарогу. У Высокае.

**У мяне было шчасце**

У Высокім побач млына спыніліся. Цёця пачала з людзьмі гаварыць. Пра астрог дапытваца.

— Вы, маладзіцо, лепш немцам на вочы не паказвайцеся. Бо і вас яшчэ прымкнуць, — параіў млынар. — Хай лепш той дзяўчук ідзе, пытае, — паказаў на Марысю.

І зноў пайшла Марыся Младзяноўская да жандараў.

— Але ў мяне было шчасце, — адзначае мая субяседніца. — Пакуль дайшла да вартавых, маму сваю пабачыла. Яна працавала ў турэмнай кухні і якраз несла ў двух руках вёдры, каб гусей накарміць.

— Мамо! — выгукнула тады Марыся. Памятае, як маці быццам стоўб скамянела. Не магла паверыць, што і тут дачка яе адшукала.

Раней у той дзень немцы пабілі Марысіну маці. За сырыя бульбяныя лупіны, што з'ела ад голаду палонная.

**Гадзіну плакалі ды гаварылі**

Калі вартаўнік закрыў дзверы астрога, Марыся падумала: *Можа і мяне тут замкнуць. Ну, але годзе, добра паміраць разам з роднымі.*

— Як яны мяне паабнімалі, як учынілі плач, то і той немец адвярнуўся ды стаў плакаць.

Цэлую гадзіну Марыся гаварыла ды плакала з раднёю. Яшчэ і на канец сустрэў яе нечаканы падарунак. Немец, той з медалямі, даў ёй вялікі пакет цукерак.

— Завязі той маленькай, што дома асталася, — сказаў цераз перакладчыка.

**Мама на Каляды прыйшла**

Яшчэ раз Марыся Младзяноўская паехала са сваёй цёцяй у Высокае. Але сям'ю адвезлі ўжо ў Пружану. Хутка сваякоў дамоў адпусцілі. Толькі маму і тату Марысі ў Белавежу павезлі.

— Мы верылі, што яны да нас вернуцца, — кажа Марыся Младзяноўская.

— Яшчэ ў Высокім маме прыснілася Божая Маці. Яна адсланіла цёмную занавеску і папытала:

— Ясна табе?

— Ясна мне, — адказала мама.

Маці Марысі Младзяноўскай вярнулася на Каляды. Дзень раней у Белавежы павесілі бацьку.

— Мы не шукалі помсты. Ведалі, хто прадаў, — кажа мая субяседніца. — Бо ці такім чынам нашага тату з магілы звялі б?

Ганна КАНДРАЦЮК

*Фота аўтара*

# Б'е пярун агнявы

Сярод людзей пануе перакананне, што перуны, маланкі і грымоты бываюць тады, калі прарок Ілья едзе па небе ў вогненнай калясніцы. Але летнія навальніцы з перунамі бываюць і да і пасля свята Ільі (2 жніўня). Напрыклад, у прыгранічнай Бобінцы ў канцы ліпеня загрымела толькі раз і маланка, ударыўшы ў бярозу ля дома, па тэлевізійнай антэне ўляцела ў кватэру, разнесла тэлевізар і па электраўстаноўцы дайшла да электрычнага „пастуха" на панадворку ды ўшчэнт яго разбіла. Ад акустычнай хвалі разваліўся комін і лопнула шыба, а ад тэмпературы згарэла фіранка. На шчасце хата не загарэлася. Людзей у той час не было дома.

Са студэнцкіх часоў памятаю доктара Анджэя Віслінскага з Люබліна, якога падчас экскурсіі ў Татрах заспела бура. У адлегласці некалькіх метраў ад яго ўдарыў пярун. Памяткай ад гэтага застаўся ў яго нервовы цік на твары. Адзін з жыхароў Дубіч-Царкоўных таксама перажыў блізкую сустрэчу з маланкай. У 1980-х гадах вяртаўся ён з сенакосаў на коннай касілцы. Ад перуна загінула тады двое коней. Апошні гром можа таксама быць смяротным. Калі навальніца суцішылася, дзве сястры з Грабаўца выйшлі на мяжу і хацелі ісці дадому. Раптам раздаўся гром і абедзве дзяўчаты загінулі.

Кажуць, сцеражонага і Бог сцеражэ. У маім блёку вандалы абарвалі кавалак громаадвода. На шчасце канчаецца гарачае, навальнічнае лета.

Славамір КУЛІК

# За міжваеннай Польшчы было як цяпер

**Успамінае Дзмітры КЛІМУК з вёскі Старына, год нараджэння 1920, сын Фёдара і Анастасіі (з дому Семянюк), якая родам з Пяскоў.**

**Бежанства**

У першую вайну бацька, Фёдар, быў у арміі. Маму і дзеда з бабуляй, якія ехалі ў бежанства, затрымалі ў Пружанах. Іх завярнулі ў Старыну. Бацькі тады не было і маці жыла са свекрамі. У вёсцы былі такія, што схаваліся былі ад бежанства, асталіся. Гэтыя людзі ўсё парабавалі. Аднак хаты стаялі, не былі спаленыя.

**Міжваенны перыяд**

Пры міжваеннай Польшчы было таксама, як цяпер, беспрацоўе, цэлы час хадзілі людзі з торбамі. Прыходзілі такія работнікі і гаварылі:

— Ja jestem bezrobotny. Proszę coś dać.

— A co dać?

— Ja chleba nie chcę, tylko pieniędzy.

**Вайна**

У другую вайну, як прыйшлі саветы ў 1939 годзе, я паступіў на работу у Чаромху. Як напалі немцы на рускіх і іх прагналі ды сталі гаспадарыць, мяне вывезлі на работы ў Нямеччыну. Пасля, як нас вызвалілі савецкія войскі, мяне адразу ў армію забралі. Я быў чатыры месяцы на фронце. Ваяваў пад Калінінградам (гэты горад тады называўся Кёнігсберг). Пасля выслалі наш 208 полк на Пелавы таму, што там многа эсэсаўцаў было і ўкраінцаў. 17 жніўня прывезлі нас у Ольштын. Мы на Берлін не хадзілі. Восенню гэтага ж года нас вывезлі ў Расію. Я да 3 чэрвеня 1946 г. быў дэмабілізаваны.



*Дзмітры Клімук з жонкай і ўнукамі.*

**Партызаны**

У вайну дзейнічала тут партызанка. Мой старэйшы брат Канстанцін Клімук звязаўся з ёю. Са Старыны — ён і Мацвей Новахрымук. Іх двух было. Мой брат быў у партызанаў сувязным. Ён даносіў партызанам, што дзе робіцца.

У Войнаўцы за савета быў калгас. І двух рускіх было трактарыстамі. Як ужо пачалася вайна, яны таксама сталі сувязнымі і даносілі партызанам. Шпіёны даведаліся пра тое, прыехалі і забралі іх з сяла. Тых з вёскі пусцілі, а іх павесілі ў Белавежы. Нямецкі солтыс называўся Хвадзей Леўчук. Ён служыў на два бакі: і да партызанаў належаў і са шпіёнамі нямецкімі рабіў. Партызаны былі адсюль і з Расіі. Тыя другія, як немцы былі ўвайшлі, не мелі куды ўцякаць. Пераапрануліся ў цывільную вопратку і жылі з людзьмі. Немцы хацелі іх забраць у лагеры. У лясах былі і АКаўцы. Яны да нас прыязджалі. У адну ноч яны прыехалі і 18 вепрукоў забралі. Забралі фуры і завезлі кудысьці ў Гайнаўку. Гэта было вечарам, а раніцай коні самі прыйшлі; хіба падагналі іх і пусцілі.

У гэтых партызанаў паявіліся шпіёны. Яны былі з Украіны. Яны ўвайшлі ў гэтае асяроддзе і запісвалі, хто і што рабіў. Аднаго разу шпіёны прыйшлі ў вёску з немцамі. Паставалі насупраць людзей і нямецкі жаўнер пытаўся, ці мой брат быў з партызанамі. Ён прызнаўся, што быў сувязным. Яго забілі. Яму было 29 гадоў.

**Пасля вайны**

У 1946 годзе я вярнуўся з савецкай арміі. Мяжа была 4 кіламетры ад Старыны. У 1947 годзе мяжу праставалі і зрабілі так як цяпер. Пасля вайны многа сваякоў асталося за мяжой. Майго бацькі дзве сястры. Маёй жонкі сястра выехала на Урал. Жыла ў Первамайску (памерла ўжо).

**Пра вёску**

Калісь была адна Старына. Аднойчы ўдарыў пярун, другім разам дзеці падпалілі. Вёска гарэла, бо дамы былі пабудаваны вельмі густа. Калі бацька меў участак, яго сыны дзяліліся і будавалі хаты на гэтым участку. Было цяжка. У майго дзеда было іх трох: адзін пайшоў у прыступы ў Мора, другі — астаўся на тамтой Старыне, а мой бацька рашыў перасяліцца на новае месца. Так зрабілі і іншыя. Выбралі паселішча, пабудаваліся і назвалі яго Новай Старынай. Старына была мешаная, бо і многа каталікоў было. Было некалькі такіх *родовітых*. Больш было такіх, што наехалі, бо работы тут шукалі ў лесе і ў лесе працавалі. Было таксама надлясніцтва, дзве крамы, пачатковая школа.

**Запісаў Міхась СЦЕПАНЮК**

*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*

# Кожны дзень заходжу ў кузню

**Кавальскае рамяство ў вясковым асяроддзі знікае. Няма ўжо школ, якія вучаць гэтай прафесіі, няма таксама вялікага попыту на кавальскія паслугі. Аб кавальскай рабоце можна пачуць толькі ад пажылых людзей. 76-гадовы жыхар Орлі Барыс БАГАЦЭВІЧ паўвека свайго жыцця прапрацаваў у кузні. Кавальству навучыўся сам.**

**Была вайна**

— Пры немцах вывезлі мяне на прымусовыя работы. Тры гады правёў я ў Лідзбарку-Вармінскім, — расказвае Барыс Багацэвіч. — Бауэр, у якога я працаваў, трымаў аж 14 коней і 12 рабочых, сярод якіх былі яшчэ рускія, італьянцы і французы. Дзесьці ў лютым-сакавіку 1944 г. вызвалілі нас саветы. Французскіх рабочых адпусцілі яны на волю, а нас заставілі гнаць статак нямецкага быдла — 200 кароў — на Усход. Потым ноччу пагрузілі нас у машыны і завезлі... на фронт ды ўключылі ў рады Чырвонай Арміі. Пасля заканчэння вайны я яшчэ тры гады служыў у арміі на тэрыторыі Савецкага Саюза. Спачатку наша часць стаяла ў Мінску, затым у Гомелі, Баранавічах, а на канец зноў у Мінску. Працаваў я ў вайсковых рамонтных майстэрнях. Разам са мною служылі яшчэ хлопцы з Асоўкі, Грабаўца. Пасля службы не хацелі мяне адпусціць у Польшчу, толькі намаўлялі застацца ў СССР, прапанавалі добрую работу. Аднак вясною 1947 г. удалося мне вярнуцца. На другі год я ажаніўся. Пазней у 1950-х гадах узялі мяне як запасніка на вайсковае трохмесячнае абучэнне ў артылерыйскую часць у Сувалках.

**Кавальская работа**

Кавальскую работу Барыс Багацэвіч пачаў у кузні Гміннай машыннай базы ў Орлі ў 1950-х гадах. Пазней коратка працаваў на кафляным заводзе і ў цагельні.

— У 1955 г. пабудаваў я сваю кузню і стаў працаваць прыватна. Аднак дырэктар Хмяльніцкі намовіў мяне вярнуцца ў машынную базу. Пасля працаваў я ў майстэрні ГСу і адсюль у 1980 г. перайшоў на пенсію па стане здароўя.

Пасля вайны найбольш было заказаў на восі для фурманак. Накладалі мы таксама абручы на драўляныя колы сялянскіх вазоў. Кузня стаяла ў цэнтры Орлі — цяпер гэтага будынка ўжо няма. Было нас 3 сталяроў і 6 кавалёў. Разам са мною працавалі Шыманскі, Журавель, Карнееў і двух Федаровічаў.

Абручы накладалі мы такім чынам, што лёгка нагрэты абруч двух кавалёў раўнамерна набівалі на драўлянае кола, якое ляжала на стаяне. Пасля кола апускалі ў ваду, каб абруч стаў больш тугім. Усё тады кавалі рабілі ўручную, бо зварачных апаратаў яшчэ не было.

Рабілі мы металічныя зубы для барон — рама была драўляная. Выраблялі мы лемяшы, матыкі, сярпы, падкоўвалі тысячы коней. За адзін дзень каваль абслугоўваў больш дзесяці буланых. Каб конь стаяў спакойна, зроблены быў спецыяльны станок, а ў мышу ўстаўлялі каню адмысловую „файку". Але не раз здараліся небяспечныя выпадкі. Я сам атрымаў удар капытом па нагах. Найбеспячней падкоўваць задні ногі. Мяне накіравалі на 3-месячныя курсы па падкоўванні коней у Беласток, у якім удзельнічала 13 чалавек. Далі нам пасведчанне і рамесніцкі дыплом.



*Барыс Багацэвіч за работай.*

Кавальская работа патрабуе ўмеласці. Трэба ведаць які малаток прымяняць да апрацоўкі таго ці іншага кавалка жалеза, калі трэба каваць удваіх. Напрыклад, пры сярпах памагала мне жонка Соня. Яшчэ сёння я мог бы падкаваць каня, але сёння ў вясковым магазіне не купіш ужо адпаведных цвікоў. Другая справа, што коні калісь былі спакайнейшыя, бо цяжка працавалі. У мяне быў спакойны конь, якога называлі „Лёлек". Дастакова было сказаць: «„Лёлек", дай нагу», і ён падымаў яе ды стаяў спакойна, пакуль я не падкаваў яго. А цяпер коні скачуць, быццам дзікія. Ужо некалькі гадоў не падкоўваю коней. Але ў сваю кузню заходжу кожны дзень. Часам раблю нейкі дробныя справы, нешта рамантую для дому.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

*Фота аўтара*

# Супярэчлівая кніжка

Люблінскае выдавецтва „Retro" надрукавала кніжку Генрыха Паёнка „Бандытызм НАТО". Можна было б і не звярнуць увагі на гэтае выданне, калі б яна не закранала блізкіх нам спраў. На 223 старонках, аўтар прыводзіць мноства факталагічнага матэрыялу, якім бясспрэчна даказвае, што бамбардзіроўкі Сербіі не мелі нічога супольнага з абаронаю нацыянальнай меншасці ці правоў чалавека. Адзіным верагодным матывам гэтага генацыду здзейсненага НАТО, паводле аўтара, было выкананне заказу, атрыманага ад глабальнага сусветнага ўрада, які такім чынам, зрабіў яшчэ адзін крок у напрамку поўнага знішчэння ўсякага супраціву нацыянальных, незалежніцкіх сіл, якія не згаджаюцца на ліквідацыю народаў, нацый і незалежных краін свету, на поўную уніфікацыю і залежнасць ад аднаго мафійнага сусветнага цэнтра.

Другім матывам бамбардзіровак, паводле аўтара, з'яўляецца ваенна-прамысловае лобі Злучаных Штатаў Амерыкі, якому безупынна патрэбны палігон для знішчэння непатрэбных запасаў зброі, за якія заплацяць члены НАТО, а яшчэ лепш — члены ААН. На гэтым палігоне амерыканская ваеншчына, за чужыя грошы, можа таксама выпрабаваць свае навейшыя смертаносныя канструкцыі (графітовыя і напоўненыя ўранавым парашком бомбы). Пішучы аб метадалогіі, аўтар звяртае ўвагу на факт, што першыя крокі заходняя ваеншчына, заўсёды робіць у напрамку правакацыі. Аўтар прыводзіць многа прыкладаў для падтрымкі гэтага тэзіса. На хвіліну аўтар спыняецца таксама на справе сённяшняй Беларусі, а таксама беларускай часткі Беласточчыны. Піша ён, між іншым: „Пазьняк, які не ведаў ніводнага слова па-польску, чытаў прамовы, у якіх адкідаў думку польскага паходжання ахвяр НКВД у Курапатах і патрабаваў выгнання з Беларусі польскіх ксяндзоў. Як маглі, так падтрымлівалі яго правакатары на польскім баку мяжы. Найбольш антыпольскімі аказаліся дзеячы г.зв. Беларускага дэмакратычнага задзіночання". У далейшых радках аўтар адмоўна ставіцца да ідэі стварэння радыёвяшчальнай станцыі „Рацыя".

Кніжка гэтая вельмі супярэчлівая. На маю думку, аўтар кніжкі не выводзіцца з кругоў польскай правіцы, а таксама не з'яўляецца членам польскай лявіцы. Польскія левіца і правіца аднолькава захапіліся рэзультатамі дзеянняў ваеншчыны НАТО ў Сербіі. Аўтар не згаджаецца з гэтай ацэнкай.

Думаю, што кніжку павінны прачытаць беларускія дзеячы Беласточчыны, паколькі ў ёй закранаюцца беларускія пытанні. У кніжцы выдавецтва дае адрас, на які можна напраўляць заказы: Wydawnictwo „Retro", Motycz-Józefin 50, 21-008 Tomaszowice.

**Хведар ГАЛЁНКА**

# Хто стварае праблемы?

Ад чэрвеня чарамхоўская амбулаторыя мундзірных службаў перасялілася ў новы будынак. На старым месцы застаўся аптэчны пункт. Пацыентам такое вырашэнне не спадабалася. Раней хворы афармляў усе справы на месцы, разам з купляй лякарства.

Зараз ад амбулаторыі да аптэчнага пункта два кіламетры. Хворы, выходзячы ад лекара, вымушаны ехаць цераз усю Чаромху па лякарства, хоць гэта яму не па дарозе.

У панядзелак, 9 жніўня, я запытаў аптэкарку, калі аптэка пераедзе ў памяшканне чыгуначнай пачакальні, як гэта раней планавалася.

— А хто яго ведае. На станцыі нічога не робіцца для прыняцця аптэкі. Гавораць, быццам бы інвестыцыі на чыгунцы спыніліся. А тут крыху грошай трэба на каналізацыю. У білетных касах няма каналізацыйнай сеткі, а адтуль найбліжэй было б падключыцца. І з гэтым найбольш клопату. Трэба яе правадзіць побач пераноў. А гэта, як вядома, патрабуе часу і грошай. Пэўна па хатах разыдземся, — з сумам заяўляе мая субяседніца, — бо на старым месцы не застанемся. Ніхто зімой не будзе ацяпляць двум працаўніцам на змену ўвесь будынак, а пры гэтым і прыбіральшчыцу наймаць.

„Сумнае, але праўдзівае”, — гавораць у народзе. А я хачу паставіць пытанне: хто стварае чарамхоўскаму грамадству праблемы і клопаты — чыгуначная вярхушка ці мясцовы самаўрад, якому ў час рэформы ўсклалі на плечы адказнасць за здароўе сваіх жыхароў?

**Уладзімір Сідарук**

# Небяспечнае шаленства

22 ліпеня г.г. селянін на калёніі вёскі Вулька-Выганоўская забіў на сваім панадворку ліса, які пакусаў сабаку. У целе забітай жывёлы была выяўлена шаленства — вострая інфекцыйная хвароба, якая паражае цэнтральную нервовую сістэму, — кажа ветэрынар Юзэф Бжана з Орлі. — Гэтая зараза, якую завуць яшчэ водабоязззю, можа распаўсюджвацца праз пасрэдніцтва бяздомных сабак, якія бадзяюцца па тэрыторыі гміны. Гэта перш за ўсё вынік бяздумнага вывазу непатрэбных гараджанам сабак у поле. Напрыклад, 25 ліпеня бяздомныя сабакі на полі каля Малініка загрызлі гадавое цяля. У такой сітуацыі сяляне не павінны пакідаць жывёлу на пашы нанач, — перасцерагае ветэрынар.

А як усцерагчыся ад шаленства? Перш за ўсё трэба быць асцярожным падчас экскурсій у лес, не набліжацца да лясных звяроў, не лавіць іх. Нельга дазваляць дзецям гуляць з незнаёмымі сабакамі і катамі. Сваю хатнюю жывёлу трэба ахоўваць ад кантактаў з дзікай жывёлай. Сабак трэба трымаць на прывязі і прышчэпліваць супраць шаленства, — раіць спецыяліст.

**Міхал Мінцэвіч**

# ПЧК у Орлі

20 ліпеня г.г. у Орлі на аўтамашыны Польскага чырвонага крыжа валанцёры грузілі ўжываную вопратку. Тыдзень раней маладыя актывісты ПЧК адведалі кожны панадворак, дзе пакінулі лістоўку і жоўтыя пластмасавыя мяшкі.

Польскі чырвоны крыж аб’явіў акцыю пад лозунгам „Зрабі парадак у шафе!” Жыхары мястэчка станоўча адгукнуліся на ініцыятыву ПЧК. У назначаны дзень — згодна з указаннямі ў лістоўцы — выставілі яны перад сваімі панадворкамі мяшкі з ужыванай вопраткай. Арляне аддалі ўсялякую непатрэбную ім верхнюю вопратку, бялізну, світэры, ручнікі, абрусы, пасцель, пледы, коўдры, пярыны, а таксама павязаныя парамі боты, а нават цацкі. Практычна перад кожным панадворкам стаяла намнога больш мяшкоў, чым пакінулі валанцёры. Сабраная вопратка паслужыць падтрымцы статутных задач ПЧК, а гэта на практыцы абазначае матэрыяльную дапамогу маламаёмным падапечным гэтай гуманітарнай арганізацыі.

**(мм)**

# Кірмаш „Нёман-99”

Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку паведамляе, што з 20 па 23 кастрычніка 1999 года ў Гродне адбудзецца кірмаш Еўрарэгіён „Нёман-99”, арганізатарам якога з’яўляецца Нацыянальны выставачны цэнтр „Белэкспа” з Мінска.

Тэма кірмашу — харчовая прамысловасць, гандлёвае абсталяванне, прадуктовыя артыкулы, прадметы хатняга ўжытку і будаўніцтва. Згаданая выстава арганізуецца ўпершыню і згуртуе прадпрымальнікаў з Беларусі, Расіі, Польшчы і Літвы.

Галоўная мэта выставы — пашырэнне прыгранічнага супрацоўніцтва ў галіне гандлю, прамысловасці, навукі, культуры і экалогіі паміж прадпрыемствамі і арганізацыямі Беларусі, Расіі, Польшчы і Літвы ў рамках Еўрарэгіёна „Нёман”.

За дэталёвымі інфармацыямі можна звяртацца ў Генконсульства РБ у Беластоку, вул. Варыньскага, 4, тэл./факс 74-46-662, тэл. 74-45-501.

# Гайнаўскія прадпрыемствы

На рынку працы ў Гайнаўцы штораз большае значэнне маюць сямейныя суполкі, але аб велічыні беспрацоўя ў горадзе надалей вырашаюць найбольшыя прадпрыемствы. Пасля палітычных і гаспадарчых зменаў у краіне, абмежаваўшы прадукцыю і колькасць працаўнікоў, найбольшыя фірмы надалей працуюць. Напрыклад, больш чым 800 работнікаў працуе ў Самастойным грамадскім комплексе аховы здароўя (ЗОЗ). Кіраўніцтва лічыць, што працуюць яны зараз паводле рынычных праву. У склад ЗОЗу ўваходзяць таксама і гмінныя асяродкі здароўя Гайнаўскага павета (85 асоб). Ва ўсім ЗОЗе працуе 406 работнікаў з сярэдняй адукацыяй, у тым ліку больш за 300 санітарных працаўніц, 96 лекараў медыцыны і 8 стаматолагаў.

— Ад 1 студзеня г.г. мы ўжо не бюджэтная адзінка, а гаспадарчы суб’ект, які мусіць зарабіць на ўласнае ўтрыманне, прадаючы свае паслугі касам хворых. У нашым выпадку найбольш іх купляе Падляшская каса хворых, — паясняе Грыгорый Тамашук, намеснік дырэктара ЗОЗу ў Гайнаўцы. — Калі складчына на страхаванне не паболышае, неабходным будзе ўвальняць некаторых працаўнікоў. Многа будзе залежаць ад таго, ці пацыенты не будуць нас мінаць. Ад 1 красавіка адкрылі мы аддзел на 30 ложак для працягла хворых, да якога выстраілася ўжо чарга. Працуе ў нас мамограф і аддзел хіміятэрапіі і гэта дае месцы працы для нашых працаўнікоў.

У Акруговым малочным кааператыве ў Гайнаўцы занятых 230 асоб, але на яго паслугі працуе 60 працаўнікоў паасобных пунктаў скупкі малака. Нядаўна прынялі на працу 15 чалавек, карыстаючыся кампенсацыяй Бюро па працаўладкаванні ў Гайнаўцы.

— Дрэнныя абставіны ў сельскай гаспадарцы і вялікія патрабаванні Еўрапейскага Саюза наконт якасці малочных прадуктаў з’явіліся прычынай да скарачэння вытворчасці малака, што паўплывала на кадравую палітыку. Нядаўна пачала працаваць у нас новая аўтаматычная лінія прадукцыі сыру, што выдатна палепшыла якасць прадукту, але і давяла да ўвальненняў, — гаворыць старшыня Кааператыва Андрэй Прызовіч. — У сувязі з прадбачваным уваходам у Еўрапейскі Саюз разглядаюцца ў Польшчы дзве канцэпцыі зменаў у галіне малачарства. Паводле першай, з 300 малачарскіх прадпрыемстваў застанецца толькі 80, але наш кааператыў павінен яшчэ застацца. Другі варыянт прадугледжвае, што ў краіне застанецца толькі 24 малачарскія прадпрыемствы, ужо без нас і тады многіх работнікаў чакае беспрацоўе.

У Прадпрыемстве вытворчасці актыўнага вугалю „Грыфсканд” працуе 195 асоб, сярод якіх 15 працаўнікоў было прынятых дадаткова, у сувязі з павелічэннем прадукцыі на 40%.

Найбольш работнікаў у Гайнаўцы ў Прадпрыемстве апрацоўкі драўніны, якое пасля ўвайшло ў склад Акцыянернага таварыства „Фурнэль”, а нядаўна гайнаўскі філіял яго падзяліўся на самастойныя аддзелы: мэблі (працуе ў ім 478 чалавек), апрацоўкі драўніны (376) ды дапамогі і паслуг (92) і менавіта ў гэтым апошнім прадбачваюцца чарговыя змены.

— Ідуць размовы, каб спалучыць Аддзел дапамогі і паслуг Акцыянернага таварыства „Фурнэль” з Прадпрыемствам цеплавой энергетыкі і стварыць энергетычную суполку, у якую ўвайшла б толькі частка працаўнікоў „Фурнэля”. У планах прадугледжваецца прыватызацыя рамонтных цэхаў, якія павінны зарабіць на сябе, — кажа радны Гарадской рады ў Гайнаўцы і працаўнік успамянутага Аддзела „Фурнэль” Уладзімеж Тэтэрка. — Каб усім забяспечыць работу, рамантуем дахі, працуем пры водаправодах і каналізацыі і абрэзваем галлё дрэў. І хаця гэта першыя крокі ў пошуках дадатковых паслуг, ёсць нейкія рэзультаты.

У Аддзелах мэблі і апрацоўкі драўніны Акцыянернага таварыства „Фурнэль” не прадбачваюцца кадравыя змены, а дырэкцыя Аддзела мэблі вядзе пошукі галоўнага інвестара. Не прадбачваюцца ўвальненні і ў Машынным прадпрыемстве „Гамех”, дзе працуе каля 300 асоб.

**Аляксей Мароз**

# 10 гадоў БАС

Беларускае Аб’яднаньне Студэнтаў у Польшчы пляную **18 верасьня 1999 г.** правесьці мерапрыемства прысьвечанае 10 гадавіне рэгістрацыі арганізацыі й яе законнай дзейнасьці. Мерапрыемства адбудзецца ў Супрасьлі ў асяродку адпачынку „Пушча”.

**Плян мерапрыемства**

$12^{00}$ — $14^{00}$ прыезд, кватарунак і рэгістрацыя ўдзельнікаў;
$14^{30}$ — $17^{30}$ афіцыйная частка, даклады;
$19^{00}$ — ... урачыстая вячэра;
$9^{00}$ — $10^{00}$ сьнеданьне, разьвітаньне.

У артыстычнай часткі прадугледжваюцца канцэрты Сяржука Сокалава-Воюша й Віктара Шалкевіча.

**Кошты ўдзелу ў мерапрыемстве з вогнішчам і канцэртамі**

150 зл. ад асобы (начлег, абед, сьнеданьне);
110 зл. ад асобы (без начлегу, абед, сьнеданьне);
70 зл. ад асобы (без начлегу, без абеду, бяз сьнеданьня).

Свае заявы на ўдзел у мерапрыемстве можна падаваць да **1 верасьня 1999 г.**, уплачваючы адпаведны ўзнос на рахунак БАС — **Białoruskie Zrzeszenie Studentów, PBK S.A. I O/Białystok, Nr 11101154-2857-2700-1-14** — з прыпіскай „10-lecie”. Пасьведчаньне ўплаты захаваць.

# Юбілейны V З’езд

З выпадку 55 гадавіны заснавання II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім 25-26 верасня 1999 года адбудзецца юбілейны V З’езд выпускнікоў і выхаванцаў школы.

Ахвотных удзельнічаць ва ўрачыстасцях калег арганізатары просяць пералічыць да 10 верасня суму 100 зл. на рахунак: **PKO BP w Bielsku Podlaskim Nr 10201345-32883-270-1** з прыпіскай: V Zjazd Absolwentów i Wychowanków II Liceum Ogólnokształcącego z BJN im. B. Taraszkiewicza w Bielsku Podlaskim, ul. Kopernika 4, 17-100 Bielsk Podlaski.

**Аргкамітэт V З’езда выпускнікоў і выхаванцаў II Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Міравовіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

*Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп’ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*Prenumerata:*

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

 

# Ніўка




Мал. Алеся СУРАВА („Замалёўкі з Беларускай «натуры»")

__Фрашкі пра нашых__

## *Трыялог: яна, ён і яно*

Кожная курачка грабе пад сабою,
Колькі тае моцы ў курыных кіпцюрах,
Каб якога чарвячка дарваць сабе, каб зернейка якое,
А пасля рассесціся на пакладах.
А з кожнага яечка каб вылупілася яно:
Сваё рабое ці белае, роднае, курынае дзіцё.
А каб пазналі ўсе, што гэта ёсць сваё,
На кожную шкарлупку — бух! кляймо.
А каб увесь свет спазнаў, што курачка цудоўная,
Хай службовец-певень весць у свет падасць:
Вось новы род курыны ў нашым курніку ад поўначы
Завёўся. Нацыі курынай ён не дасць прапасць!

**Вандал АРЛЯНСКІ**

# Пра пляванне

Найбольш вядомым плявакам з'яўляецца вярблюд. Калі хто яго раз'ярыць, ён можа выплюнуць на крыўдзіцеля кілаграм страўнікавага змесціва. У нас, на шчасце, вярблюдаў не трымалі і не трымаюць, мо толькі хто яшчэ дзе-нідзе кароўку гадуе. А страўнік у каровы вялікі: для пераважвання карова за суткі вытварае каля 50 кілаграмаў сліны, а бык то напэўна яшчэ больш, што разам з травою дайшло б амаль да цэнтнера. І калі б такі бык пляваў такім чынам як вярблюд, дык ён няшчаснага жартаўніка і забіць мог бы. Але ў працэсе эвалюцыі ў быка выраслі рогі і ён не плюе, толькі бадае ў ходзе свайго змагання за быт. Вось нядаўна падчас жывёлагадоўчага аўкцыёну на ферме былога аўстралійскага прэм'ер-міністра Малкальма Фрэзера адзін люты бык па каралеўскай клічцы Маўнтбатэн абрушыў свае 800 кілаграмаў на прысутнага там аматара ялавічыны і паламаў яму ногі, а ягонай жонцы руку і дзве рабрыны. За здзейсненае быком злоснае хуліганства яго гаспадар вымушаны быў заплаціць каля 300 тысяч долараў штрафу. І вельмі справядліва, бо на свой аўкцыён не павінен быў запрашаць недасведчаных тамашніх купцоў. Калі хто хоча прадаць быка, павінен на такую здзелку запрасіць іспанцаў — яны ўмеюць абыходзіцца з быкамі, гэта іх нацыянальнае мастацтва, такое, як ікебана ў японцаў ці гасціннасць у палякаў. У Іспаніі змаганне з быкамі аглядае больш народу, чым першыя ў нас матчы „Ягелоніі" на стадыёне „Гварды". Мастацтва гэтае зводзіцца да таго, каб быка спачатку вымучыць, абяскровіць і, калі ён ужо не ў змозе калоць рагамі, пракалоць яго шпагай. Называецца гэта карыдай.

Калі добра прыгледзецца нашым тут паводзінам, дык і мы таксама займаемся карыдай, толькі не з лютымі быкамі. Для прыкладу: калі ў наш глянцавы салон уляціць муха, яна спачатку шалее, быццам малады бык на арэне. Пасля яна недзе прысядзе. Мы яе адтуль, быццам пікадор быка, праганяем. Яна зноў палётае і зноў прысядзе. І мы зноў не даем ёй спакою. І так аж да пары, пакуль муха добра змучыцца. Тады бярэм мухабойку і, быццам матадор, наносім ёй фінальны ўдар па спіне і па глянцавай сцяне.

У мангравых зарасніках, што растуць у прэсных паўночнааўстралійскіх вадаёмах, жыве рыбка пырскун; ён таксама змагаецца з мухамі. Падплыве ён да лісточка, на якім прысядзе муха, і плюне ў яе струйкаю вады. З пырскуна стралок меткі, чужыя яму промахі і паваленае пляўком насякомае апынаецца тут жа ў ягоным страваводзе, а ён сам адплывае віляючы радасна хвастом быццам той сляпы сабака.

У Мексіцы жывуць яшчаркі, якія маюць на галаве адмысловы мускул, які ў небяспечных абставінах паднімае крывяны ціск да такой ступені, што капіляры вочных перапонак разрываюцца і кроў цераз трэшчыны пырскае ў напрамку агрэсара на адлегласць паўтара метра. А глупыш — птушка, якая жыве на поўначы, аплёўвае няпрошанага госця струяй вадкасці, якая пахне тухлінай і ванітамі.

У Афрыцы жывуць чорныя кобры, якія плююць ядам. Чорная кобра слаба бачыць і яна нацэльваецца на бляск вачэй. Гэты яд выклікае моцнае смыленне, якое вядзе да запалення вачэй і да часовай або і поўнай слепаты.

А найбольш каварна плюецца „Ніва": выпускае яна ў напрамку агрэсара струю люстэркавай вадкасці. Аплявaная ёю ахвяра, калі не прыжмурыць вачэй, бачыць адно толькі сябе.

**Адам Маньяк**

# *Крыжаванка*



**Гарызантальна:** 3. гарачы напітак з гарэлкі, змяшаны з вадой і цукрам, 8. празрысты слаісты мінерал, 9. жанр Алеся Барскага, 10. выхаваўчая ўстанова для найменшых дзяцей, 11. зневажальны ўчынак, 13. сцябло бульбы, 15. самая ядавітая гадзюка, 16. грашовы падкуп дзеля атрымання выгады, 20. ямінка для зубнога кораня, 22. клубень бульбы, 23. возера ў Батсване на поўдзень ад балота Акаванга, 27. бледна-ружовая афрыканская птушка з доўгімі нагамі і доўгай шыяй, 29. прозвішча аўтара „Партрэта Дарыяна Грэя", 30. расліна з белымі ягадамі, якая паразітуе на іншых дрэвах, 31. слабы вецер з мора на бераг днём і з берага на мора ноччу, 32. рэстаран у Лас-Вегас або Монтэ-Карла, 33. фігурка ў настольных гульнях для перасоўвання па клетках, 34. пяхотнае падраздзяленне.

**Вертыкальна:** 1. невялікі бульбяны блін, спечаны на патэльні, 2. адзенне, 4. напр. казіно, 5. сыравіна для ганчарных вырабаў, 6. не воўк, у лес не ўцячэ, 7. абраз, 12. напр. авіяносец, 14. афрыканскае балота на поўнач ад возера Нгамі, 16. промах, 17. ударная частка звона, 18. вялікі вадаём, 19. жонка пана, 21. старажытнаегіпецкі будынак з заблытанымі хадамі, 24. пачатак шахматнай партыі з ахвяраваннем пешкі або фігуры, 25. семявая залоза ў рыб, 26. прозвішча аўтара „Прыгод бравага салдата Швейка", 27. неадчувальная знешне плынь, якая зыходзіць ад другое асобы, 28. вылучэнне з асяроддзя. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 28 нумара**

**Гарызантальна:** палена, рытуал, Сапега, Дака, блін, прыкаморак, Афон, Ітан, цыкута, Караян, рапіра.

**Вертыкальна:** пагада, Наса, Рыга, Алкуін, Пернамбуку, капрон, блакіт, Афрыка, Анкара, цыян, тара.

Рашэнне: **Напалеон Орда**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Надзеі Сцяпанавай** з Віцебска і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Маладажон выпівае з нагоды нараджэння дзіцяці.

— Каго табе віншаваць, — пытаюць сябры, — сына ці дачкі?

— Хіба дзяўчынкі, бо бачыў, як медсястра яе пудрыла.

* * *

Маладая жанчына ў вузенькай спадніцы хоча сесці на аўтобус, аднак не можа ўзабрацца на ступеньку. Сягае рукою назад, каб расшпіліць гузікі ў спадніцы. Людзям за ёю спешна, і мужчына, які стаяў за ёю, схапіў яе пад задніцу і падсадзіў на ступеньку.

— Свіння! — адвярнулася яна да яго.

— Я свіння? А хто мне хвіліну таму ўсе гузікі ў распорку парасшпільваў?

* * *

Настаўніца пытае дзяцей, з якіх частак складаецца сэрца.

— З правага перадсэрдзя, — адказвае Янка, — з левага перадсэрдзя, з правага жалудачка, з левага жалудачка і з ножак.

— А адкуль ты ведаеш, што сэрца мае ножкі?

— Бо я чуў, як ноччу татка гаварыў маме „Раскрый, сэрцайка, ножкі".

* * *

Гутарка маладажонаў:

— Усё сваё жыццё берагла я свае пацалункі для цябе...

— Дык цяпер гатоўся да хуткага расходвання зберажэнняў.

* * *

Наведвальнік заказвае ў афіцыянта:

— Прашу гуляш і добрае слова.

Праз хвіліну атрымоўвае порцыю гуляшу.

— А добрае слова?

— Не ешце гэтага!

* * *

— Пацалуй мяне, каханая.

— Не; мая мама супраць пацалункаў.

— А я ж не хачу цалавацца з тваёю мамай.

* * *

— Афіцыянт! Мой суп халодны.

— А вы хацелі каб быў які, калі вы яго заказалі гадзіну назад?

* * *

Наведвальнік рэстарана выцірае талерку берагам абруса.

— Шаноўны спадар, — звяртаецца да яго афіцыянт, — талеркі ў нас чыстыя і непатрэбна іх не пэцкайце!

* * *

У кавярні:

— Чаму вы, — звяртаецца афіцыянт да наведвальніка, — паставілі на падлозе кубачак кавы толькі што прынесеным мною?

— Бо гэтая кава такая слабая, што магла б зваліцца са століка.

* * *

Турыст затрымоўваецца ў гасцініцы.

— Ці гэта праўда, што тут здаровы клімат? — пытае ў прыёмнай.

— У нас найздаравейшы клімат у цэлай краіне; тут ніхто не ўмірае!

— А я ж перад хвілінаю бачыў пахавальнае шэсце...

— Гэта ўласнік пахавальнага бюро памёр ад голаду.

 